13 студзеня 2017 | № 1 (515)

# Новы час

Вакарчука ў прэзідэнты!
стар. 8

novychas.by
• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ
ISSN 2218-2144

4 «МАТРЫЦА ЗАДАЧ» ЯК АПОШНІ ДОВАД

Для пачатку рэвалюцыі, характэрная «слепата ўлады», якая ва ўпор адмаўляецца бачыць наяўнасць надзённых праблем ці недаацэньвае іх вастрыню



6–7 АНЁЛЫ І ДЭМАНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ У БЕЛАРУСІ

Гісторык Алесь Гелагаеў пра калабарацыю, акупацыю, карнікаў ды матывы, якія прымушалі беларусаў ваяваць па розныя бакі барыкадаў

10 ЛЁС ДОКТАРА МІКАЛАЯ МАРЦІНЧЫКА

Гэты чалавек сёння амаль забыты, а ён быў вельмі актыўным грамадска-палітычным дзеячам у Заходняй Беларусі

11 ВАЙНА ЗА ДУШЫ ЛІТВІНАЎ



# «Бязвіз» для Еўропы

## Ці створыць Беларусь нязручнасці для Расіі?



Сяргей ПУЛЬША

Нечакана Аляксандр Лукашэнка 9 студзеня падпісаў указ № 8 «Аб устанаўленні бязвізавага парадку ўезду і выезду замежных грамадзян». Гэты дакумент абмежавана, але ўсталёўвае бязвізавы парадак уезду ў Беларусь для грамадзян 80 дзяржаў, у тым ліку ўсяго Еўрасаюза. Указ набудзе моц праз месяц пасля яго афіцыйнага апублікавання.

У чым абмежаванні ўказа? Першае — ён тычыцца выключна тых, хто наведвае Сінявокую праз пункт пропуску «Нацыянальны аэрапорт Мінск». Другое — тэрмін «бязвізу» абмежаваны пяццю суткамі знаходжання ў нашай краіне. Трэцяе абмежаванне, як паведамляе МЗС: «дакумент накіраваны на актывізацыю падарожжаў бізнесменаў, турыстаў, прыватных асоб, якія маюць агульнаграмадзянскія пашпарты, і не будзе распаўсюджвацца на замежнікаў, якія ажыццяўляюць службовыя паездкі: дыпламатычныя, службовыя, спецыяльныя і іншыя прыраўнаваныя да іх пашпарты пад увагу прымацца не будуць».

Для ўезду ў бязвізавым рэжыме неабходна мець пры сабе сапраўдны пашпарт ці іншы дакумент для выезду за мяжу, які замяняе яго, грашовыя сродкі (на кожны дзень знаходжання суму ў валюце або ў беларускіх рублях, эквівалентную не менш чым дзвюм базавым велічыням), медыцынскі страхавы поліс на суму не менш за 10 тысяч еўра, які дзейнічае ў Беларусі.

Размова пра такі «бязвіз» ішла даўно. Прынамсі, гэта пытанне праціскаў былы дырэктар Нацыянальнага агенцтва па турызме Рыгор Памяранцаў. У 2015 годзе ён прапаноўваў увесці такі рэжым цягам трох сутак. Паводле яго меркавання, гэта завабіць у Беларусь «транзітных» турыстаў, якія робяць перасадку ў мінскім аэрапорце: ім не трэба будзе сядзець у залі чакання, яны могуць выехаць у сталіцу, паглядзець цікавосткі, набыць сувеніры і вярнуцца ў аэрапорт да рэгістрацыі на рэйс.

Гэтая сістэма шмат дзе паспяхова дзейнічае. Санкт-Пецярбург атрымаў больш за паўмільёна новых турыстаў на год толькі за кошт таго, што ўлады дазволілі праводзіць у горадзе трое сутак без візы пасажырам круізных лайнераў, якія да гэтага наогул не заходзілі ў «Паўночную Пальміру».

Аднак тут ёсць і адмоўныя рэчы. Раней у беларускай практыцы шматкроць узнікалі міні-скандалы з тым, што беларускія пасольствы адмаўляліся выдаваць візы журналістам, праваабаронцам і іншым еўрапейскім эмісарам, якія жадалі наведаць беларускіх калегаў. Зараз гэта губляе сэнс: пяці дзён «бязвізу» — вышэй даху для таго, каб у Беларусь заехаў хто заўгодна і паразмаўляў з кім заўгодна. Напрыклад, кіраўнік шведскай праваабарончай арганізацыі «Östgruppen» Марцін Угла ў каментары «Радыё Свабода» сказаў, што ён лічыцца персонай, непажаданай у Беларусі, але абавязкова паспрабуе скарыстацца новай магчымасцю. Уключэнне ж такіх асобаў, як Угла, у спісы неўязных у Беларусь выкліча больш гучныя скандалы, чым было пры адмове ў візах.

У 2014 годзе Марцін Угла ўжо паспрабаваў завітаць у «бязвізавую» Беларусь на Чэмпіянат свету па хакеі — яго проста не выпусцілі з аэрапорта.

І галоўнае: што рабіць з Расіяй? У нас з ёй — адкрытая мяжа. І не выключана, што нехта прыляціць у Беларусь, а затым — рване ў Расію. І будуць гэта, канешне, не небаракі-мігранты, якія самалётамі не лётаюць. Улічваючы




**«Небяспеку для Беларусі ўяўляе не тая міграцыя, якая да нас, а якая ад нас»**

тое, наколькі РФ загразла ў Сірыі (адно забойства расійскага пасла ў Турцыі чаго вартае), «транзіт экстрэмістаў» праз адкрытую мяжу верагодны. Ці не?

Вайсковы аналітык Аляксандр Алесін вітае крок беларускага кіраўніцтва. Безумоўна, адзначае ён, «бязвіз» для Еўропы запатрабуе ўзмацнення ўнутранага кантролю замежных грамадзян з боку Памежнага камітэту, КДБ і МУС, аднак выгоды ад яго пераважваюць нязручнасці.

«Небяспеку для Беларусі ўяўляе не тая міграцыя, якая да нас, а якая ад нас. Беларусь — прываблівая транзітная тэрыторыя для мігрантаў з Цэнтральнай Азіі і прылеглых для яе краін, якія праз Беларусь спрабуюць патрапіць ва Усходнюю і Заходнюю Еўропу. Па некаторых звестках, мігрантаў, якія прыехалі ў Беларусь і не могуць з’ехаць далей, ужо каля 200 тысяч. Тое, што да нас паедуць уцекачы з Еўропы — малаверагодна. Гэта, збольшага, «кілбасныя» мігранты, якія паехалі ў Еўропу за лепшым жыццём. Для іх Беларусь прывабнай не будзе. Выгодаў жа шмат: Беларусь атрымлівае статус адкрытай еўрапейскай дзяржавы, палепшацца ўмовы для звычайнага і бізнес-турызму, краіна адкрываецца для шараговых грамадзян Захаду... Карацей, я сумняваюся, што гэта можа сур’ёзна паўплываць на эканамічную, палітычную і вайсковую бяспеку нашай краіны», — кажа Алесін.

А для Расіі? А гэта ўжо яе праблемы, фактычна кажа ваенны эксперт. Алесін зазначае, што РФ практыкуе візава-прапускны рэжым на мяжы з Беларуссю для грамадзян трэціх краін. Расія можа быць вельмі незадаволенай беларускім «бязвізам», і ў гэтым плане можна чакаць узмацнення кантролю на яе мяжы. Таму беларускі «бязвіз» Алесін называе «контракрокам» і «свайго роду дэмаршам у доўгатэрміновай перспектыве» ў адносінах да саюзніка.

Так што, магчыма, і спраўдзіцца мара Уладзіміра Падгола, які патрабаваў увесці мяжу з РФ. Але ўсталюе мяжу якраз Расія.

# Жамчужны выйшаў на сувязь, Бандарэнка маўчыць

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Нягледзячы на тое, што перапіска з Андрэем Бандарэнкам была прыпыненая, адзін з лістоў прабіўся да бацькі ва ўскрытым выглядзе.**

З ліста Андрэя стала вядома пра новае спагнанне, якое было абвешчана вязню — нібыта за знойдзеную ў камеры шпільку.

У канцы мінулага года адгукнуўся на калектыўнае віншаванне з Міжнародным днём правоў чалавека заснавальнік арганізацыі «Платформа інавэйшн» Міхаіл Жамчужны. У сваім лісце з калоніі ў Навасады ён павіншаваў усіх «падпісантаў» паштоўкі з Новым годам і Калядамі Хрыстовым.

Як вядома, адміністрацыя калоніі надае Міхаілу Жамчужнаму павышаную ўвагу. Як і Андрэй Бандарэнка, ён — «перадавік калоніі» (у тым сэнсе, што па ліку спагнанняў прызнаны злосным парушальнікам рэжыму, пастаўлены на прафілактычны ўлік як схільны да нападу на адміністрацыю). На момант напісання ліста ён адбываў чарговае спагнанне ў ПКТ (памяшканні камернага тыпу). Як і ў Бандарэнкі, падставы для спагнанняў «высмактаныя з пальца» (ці ён стаяў ля медчасткі без аховы, ці гучна размаўляў з сукамернікам, ці то нібыта збіраў рэчы для ўцёкаў). У выніку за тры апошнія месяцы — чатыры парушэнні рэжыму.

Перспектывы свайго знаходжання ў «месцах выпраўлення і перавыхавання» Жамчужны ацэньвае песімістычна. На яго думку, пасля выхаду з ПКТ (1 сакавіка) можа быць пастаўлена пытанне пра яго перавод у турму, а там, як злоснаму парушальніку рэжыму, могуць дадаць год ці два па артыкуле 411 КК.

Нагадаем, што такая крымінальная справа па артыкуле 411 КК («Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы...») ужо распачатая ў дачыненні да Андрэя Бандарэнкі.

Аднак Міхаіл Жамчужны спадзяецца, што да канца ўвесь тэрмін яму «матаць» не давядзецца. У свой ліст да Жамчужнага аўтар гэтых радкоў уклаў свае прапановы па рэфармаванні нашых праваахоўных органаў, судоў і ўстаноў выканання пакаранняў. З улікам таго, што вольнага часу ў яго зараз шмат, няхай падумае над тым, як расчысціць Аўгіевы стайні нашай пенітэнцыярнай сістэмы.

# Ці стане менш настаўнікаў-недавукаў?

**Чым абернецца ўказ кіраўніка дзяржавы аб новых правілах паступлення?**

У падпісаным Аляксандрам Лукашэнкам указе пра новыя правілы паступлення ўтрымліваюцца асаблівыя нававядзенні для выпускнікоў педагагічных класаў. Цяпер яны будуць паступаць на педагагічныя спецыяльнасці ў ВНУ на дзённую бюджэтную форму навучання па выніках сумоўя. Але пасля атрымання дыплома іх абавязваюць адпрацаваць па размеркаванні 5 гадоў.

Чаму дзяржава пайшла на такі крок, і да чаго ён прывядзе?

Ужо больш за пяць гадоў педагагічныя ВНУ не дабіраюць абітурыентаў на бюджэт, прычым недабор павялічваецца.

— Па спецыяльнасцях «матэматыка» і «фізіка» колькасць месцаў для навучання скарацілася, як мінімум, у два разы, і ўсё роўна конкурсу, па сутнасці, няма, — адзначае рэпетытар Яўген Лівянт. — Новыя льготы — паступленне фактычна без экзаменаў — гэта проста следства канстатацыі сумнай рэчаіснасці. Нічога не змяняецца: як бралі на педагагічныя спецыяльнасці практычна ўсіх ахвочых, так і цяпер будуць браць.

Дэкан факультэта даўніверсітэцкай падрыхтоўкі БДПУ імя М.Танка Сяргей Якавенка адзначыў на прэс-канферэнцыі, што льготы пры паступленні для выпускнікоў педкласаў паспрыяюць прыцягненню матываваных абітурыентаў. Але Яўген Лівянт мяркуе, што нававядзенні не прывядуць да павышэння ўзроўню падрыхтоўкі маладых настаўнікаў.

— Узровень падрыхтоўкі выпускнікоў педагагічных ВНУ сёння памежна нізкі. Давайце будзем сумленныя: ужо доўгі час на многія педагагічныя спецыяльнасці паступаюць самыя слабыя абітурыенты. Не думаю, што нававядзенні здольныя павысіць іх матывацыю і ўзровень падрыхтоўкі, — лічыць рэпетытар.

Эксперт Ліберальнага клуба Вадзім Мажэйка перакананы, што льготамі для абітурыентаў педагагічных класаў спрабуюць залатаць існуючую ў педагагічных ВНУ дзірку.

— На педагагічныя спецыяльнасці вельмі нізкі конкурс. Паступіць на бюджэт і атрымаць стыпендыю і інтэрнат — не складае вялікай працы, — кажа Вадзім Мажэйка.

Але эксперт мяркуе, што павелічэнне тэрміну адпрацоўкі па размеркаванні — не лепшае рашэнне.

— Нават з улікам замены ЦТ на сумоўе, павелічэнне абавязковай адпрацоўкі хутчэй будзе адпужваць патэнцыйных абітурыентаў, — лічыць Вадзім Мажэйка.

Вяртанне сумоўя для выпускнікоў педагагічных класаў ён разглядае, у тым ліку, як эксперымент у сферы адукацыі.

— Прапрацоўваецца абмеркаванне таго, што мадэль ЦТ не ідэальная і ад яе трэба сыходзіць. Магчыма, улады хочуць паглядзець, як будзе працаваць сумоўе ў новых умовах. Але, на мой погляд, разам з сумоўем магчыма вяртанне карупцыйных рызык і кумаўства, хоць у педагагічных ВНУ з улікам недабору ўбачыць гэта будзе складана, — кажа эксперт Ліберальнага клуба.

Вадзім Мажэйка адзначае: нававядзенні для выпускнікоў педагагічных класаў не вырашаюць асноўную праблему — маладыя беларусы не хочуць быць настаўнікамі.

— Прафесія педагога сёння непрэстыжная і нізкааплочваемая. На настаўнікаў вешаюць масу староннніх абавязкаў і функцый, іх прымушаюць хадзіць па дамах вучняў. Для змены такога становішча спраў трэба зрабіць нешта большае, — лічыць эксперт.

**Паводле zautra.by**

# «Савушкін» адмовіўся ад грошай актывістаў

**Кампанія, якая палічыла неабавязковай прысутнасць беларускай мовы ў апісанні на ўпакоўках сваіх тавараў, хацела адмаўчацца — і ніяк не рэагавала на хвалю крытыкі ў сацсетках.**

Аднак пасля таго, як неабыякавыя беларусы пачалі збіраць грошы, каб дапамагчы вытворцу наняць «ліцэнзаванага перакладчыка», піяршчыкі малочнага гіганта былі вымушаныя даць адказ. Пазіцыю прадпрыемства ў каментары marketing.by патлумачыла намеснік гендырэктара па сувязях з грамадскасцю Алена Бабкіна:

— Размова пра беларускую мову на ўпакоўцы ўзнікла для нашага прадпрыемства ўпершыню. Улічваючы тое, што кампанія працуе на шырокую грамадскасць, трэба разумець — асноўная маса беларусаў размаўляе, чытае і піша не на беларускай мове, а на рускай мове. Не трэба далёка хадзіць: выйдзіце на вуліцу і паслухайце, на якой мове размаўляюць людзі. Так, на рускай. Вось і адказ на ўсе пытанні. Таму і надпісы на ўпакоўцы — на рускай мове: каб пакупнік мог прачытаць і правільна зразумець, што за прадукт ён купляе і што ўваходзіць у яго склад.

Каментуючы ініцыятыву наконт збору сродкаў, якую арганізавалі карыстальнікі сацсетак, прадстаўнік кампаніі заявіла, што «ім гэтыя грошы не патрэбныя». Такім тлумачэннем «Савушкін прадукт» выклікаў дадатковую порцыю гнеўных каментараў.

— Нам гэтыя грошы не патрэбны... Ды не вам гэтыя грошы, а мове нашай, краіне, каб потым не заяўлялі, што выйдзі на вуліцу, глянь на сяло, па-руску размаўляюць усе, таму клалі мы на вас з вашай мовай, — напісаў у сваім Фэйсбуку адзін з арганізатараў збору сродкаў Аляксандр Лапко. — Зборам грошай беларусы паказалі, што яны гатовыя плаціць за мову! Бізнес мусіць, як воўк, кідацца на гэткія сігналы... Дык адкуль тады ўзяцца беларускай мове ў грамадстве, калі менеджмент малочнага гіганта публічна грэбуе ёю? Трэба стымуляваць яе выкарыстанне. Не выганяючы рускую, але ствараючы сапраўды роўныя ўмовы.

**Паводле gazetaby.com**

# БХД шырока адзначыць стагоддзе хрысціянскай дэмакратыі

Генадзь КЕСНЕР




**Аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» плануе шматлікімі мерапрыемствамі і акцыямі адзначыць стогадовы юбілей стварэння хрысціянска-дэмакратычнага руху ў Беларусі.**

Пра гэта 10 студзеня паведамілі журналістам лідары БХД. Паводле сустаршыні БХД Паўла Севярынца, самыя разнастайныя мерапрыемствы пройдуць па ўсёй краіне, а таксама па-за яе межамі.

«Год 2017-ты наскрозь юбілейны. Гэта 500 гадоў беларускай Біблії, для пратэстантаў важная дата — 500 гадоў Рэфармацыі. Гэта стагоддзе дзвюх рэвалюцыяў — лютаўскай і кастрычніцкай. А для нас як для партыі найважнейшы юбілей — гэта стагоддзе БХД. Сто гадоў таму — 24–25 мая 1917 года — у будынку цяперашняга Кафедральнага касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі адбыўся з'езд ксяндзоў-беларусаў, які заснаваў Беларускую хрысціянска-дэмакратычную злучнасць, якая пазней была названа БХД. Мы бярэм не толькі гэтую дату, але цэлы год і ўшаноўваем памяць дзясяткаў заснавальнікаў і лідараў легендарнай беларускай хрысціянскай дэмакратыі, а таксама хрысціянскіх дэмакратаў, якія адраджалі БХД у 90-я гады», — сказаў Севярынец.

Палітык распавёў, што з пяцідзесяці самых буйных асобаў у БХД 32 чалавекі прайшлі праз пекла ГУЛАГу ды былі там закатаваныя, а 15 чалавек знішчылі нацысты. «У нас запланаваныя мерапрыемствы па ўшанаванні памяці больш як у 60 гарадах і мястэчках Беларусі. Мы прапануем пад сто перайменаванняў вуліцаў — ад Мінска да вёсак. Таксама мы плануем выданне дзвюх кніг, якія ўжо гатовы, — «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» (220 старонак) і зборнік «Сто асобаў беларускай хрысціянскай дэмакратыі» на 250 старонак. Таксама мяркуецца праўядзенне шэрагу канферэнцый, юбілейнага з'езду і гэтак далей», — адзначыў Севярынец.

Яшчэ адзін сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі паведаміў, што ўрачысты з'езд партыі запланаваны на 27 мая бягучага года. «Пасля гэтага з'езду мы традыцыйна будзем падаваць дакументы на рэгістрацыю ў Мінюст, для нас гэта будзе чарговая спроба зрабіць тэст для беларускага рэжыму, для ўлады напярэдадні мясцовых выбараў, якія, як мы спадзяемся, могуць стаць сапраўды выбарамі. Апроч таго, мы будзем прапанаваць уладам распрацаваныя намі праекты рэформ медыцыны, адукацыі і судовай сістэмы», — сказаў Рымашэўскі.

Сярод іншых юбілейных мерапрыемстваў — гістарычная канферэнцыя да 100-годдзя БХД у траўні, навукова-практычная канферэнцыя «Нацыянальная ідэя» 6 лістапада, святкаванне 100-годдзя газеты «Крыніца» 21 кастрычніка, канцэртны тур (з лютага па снежань), а таксама гістарычныя экскурсіі для вернікаў, святароў, сябраў і прыхільнікаў БХД у Мінску і 30 гарадах Беларусі (студзень-снежань).

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Гульня ў лічбы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Улады Беларусі працягваюць стварэнне ўласнай віртуальнай рэальнасці. Але пры гэтым, падобна, не здагадваюцца, што такім чынам не толькі заганяюць сябе ў тупік, але і правакуюць сацыяльны выбух.**



Фота www.inozmi.net

Падавалася б, навошта перакручваць факты і лічбы? Усё роўна людзі ходзяць па крамах, бачаць лічбы ў сваіх жыроўках, атрымліваюць разліковыя лісты… Але ўсё роўна некаму хочацца выдаць пажаданае за дзейснае альбо «прычасаць лічбы пад сваю патрэбу».

Напачатку года гэтым, найперш, занялася любімая ЖКГ. Спрабуючы апраўдаць павышэнне тарыфаў на ацяпленне ў першыя ж дні новага года на 17%, на «партале камунальнай пісьменнасці насельніцтва» (во як загнулі!) прыведзены параўнальны аналіз, колькі плаціць за цяпло беларус, і колькі суседзі — Літва, Украіна, Расія. Паводле аўтараў ад ЖКГ, мы вельмі багатыя — плацім за цяпло толькі 11% ад заробку. Тады як у Літве кошт ацяплення складае 35% ад заробку, у Польшчы — 25%, у Расіі і Казахстане — 17%, а ва Украіне і ўсе 50%.

Але, калі чытаць удумліва і паспрабаваць праверыць лічбы, атрымліваецца нешта дзіўнае. «У сённяшні час беларус у сярэднім зарабляе 720 рублёў на месяц (дадзеныя афіцыйнай статыстыкі за кастрычнік), адпаведна, доля камунальных плацяжоў пасля падаражання складзе 11% ад сярэдняга заробку», — піша на «партале» gkx.by Яна Шчука. Між тым, дадзеныя афіцыйнай статыстыкі за кастрычнік кажуць, што намінальны налічаны заробак за кастрычнік, паводле Белстата, склаў у сярэднім па краіне 6 837 568 недэнамінаваных рублёў, то бок 684 рублі. І гэта налічаны, а не атрыманы заробак.

Пры гэтым Яна Шчука нават не тлумачыць, чаму заробак за кастрычнік параўноўваецца з цяперашнімі коштамі на ацяпленне. І гэта зразумела. Па тых жа дадзеных Белстата, налічаны заробак насельніцтва ўвесь год падаў, і за лістапад гэтае падзенне склала амаль 5%. Што, безумоўна, адаб'ецца на канчатковых «працэнтах за ацяпленне», а «парталу камунальнай пісьменнасці насельніцтва» тое цалкам не патрэбна.

У артыкуле яшчэ багата спрэчных высноў і тлумачэнняў. Але сам галоўны пасыл артыкула — гэта таксама прыём маніпуляцыі. Прыём вельмі стары, які нават паспеў надакучыць. Ну, хай сабе літоўцы плацяць за кватэру 35% заробку, а ўкраінцы 50%. І што? Мне што, павінна стаць цяплей ад таго, што нехта жыве ў іншай краіне і плаціць за камуналку больш? Выбачайце, але гэта — перакручаная логіка, якую нават логікай назваць цяжка. А дзе лічбы, колькі мы плацім за харчаванне?

Дарэчы, пра Белстат. Паводле гэтай канторы, інфляцыя ў Беларусі склала за год 10,6%. Некаторыя чыноўнікі ўжо паспелі заявіць, што яна набліжаецца да «адназначнага паказчыка».

Працэнты — працэнтамі, але чаму мы не бачым гэтага ў крамах? Telegraf.by параўнаў пераднавагоднія закупы прадуктамі на сэрвісе e-dostavka, зробленыя ў канцы снежня 2015 і 2016 гадоў. Смятана падаражэла на 46%, рыс — на 22%, макароны — на 21%, вараная кілбаса — на 18%, тварог — на 20%, квас — і той падаражэў на 46%. У інфляцыю амаль упісаўся батон, які падаражэў на 10,7%.

Пытанне — дзе існуе інфляцыя ў 10,6%? Пэўна, там жа, дзе і заробак у 720 рублёў, і «ўсім па піццот» у гэтым годзе.

**10,6%**

**склала гадавая інфляцыя ў Беларусі. Чыноўнікі заявілі пра набліжэнне да «адназначнага паказчыка»**

Такім чынам, шараговы чалавек чытае справаздачы Белстату і ЖКГ пра тое, як у нас усё добра, а ў суседзяў дрэнна. А потым ідзе ў краму і ў яго адбываецца «разрыў шаблону». Калі ў нас усё добра, дык чаму ўсё так дорага? Зразумела, у яго ўзнікае злосць — за падман, за перакручванне фактаў. І глеба для сацыяльнага выбуху — гатовая.

Крыху больш хітра зрабіла Міністэрства фінансаў. У мінулым годзе мы шмат згадвалі пра стратнасць беларускіх «флагманаў прамысловасці» і іх гаротны стан. Падаецца, больш згадваць не будзем. Бо Мінфін такую інфармацыю вырашыў проста не апрылюдніваць. Гэтае ведамства спыняе публікацыю на сваім сайце дадзеных фінансавай справаздачнасці акцыянерных таварыстваў і эмітэнтаў аблігацый.

Дзесяць гадоў Мінфін штоквартальна публікаваў у сябе на сайце дадзеныя аб працы некалькіх тысяч прадпрыемстваў, у тым ліку ўсіх беларускіх прамысловых флагманаў, дазваляючы журналістам і ўсім жадаючым у даступнай форме падабраць неабходную інфармацыю аб прыбытку і стратах прадпрыемстваў, сярэдняспісачнай колькасці працоўных, крэдытнай нагрузцы, параўнаць вынікі дзейнасці суб'ектаў гаспадарання адной галіны і гэтак далей. Патрабаванне публікацыі такой справаздачнасці было замацавана інструкцыяй Мінфіна, якая абавязвае Дэпартамент па каштоўных паперах Мінфіна даводзіць да ўсеагульнага ведама дадзеныя аб працы ААТ і эмітэнтаў аблігацый, якія не з'яўляюцца канфідэнцыйнымі. Як растлумачылі ў Мінфіне, зараз публікацыя гэтай інфармацыі стала немагчымай — пасля набыцця моцы новым законам аб рынку каштоўных папер.

Пры гэтым новым законам аб рынку каштоўных папер прадпісваецца размяшчэнне фінансавай інфармацыі на адзіным інфармацыйным рэсурсе рынку каштоўных папер, прычым раз на год.

То бок, наколькі праселі ці ўзняліся нашы прадпрыемствы, колькі ў іх было скарочана працоўных ці прынята на працу, колькі яны набралі крэдытаў і ці здолеюць іх выплаціць — пра гэта мы ўжо не даведаемся.

Ці карысная гэтая сакрэтнасць? Наўрад ці. Для самазаспакаення — можа быць, гэта і добра. Але непазбежна пачнуць узнікаць «злівы» ад працоўных заводаў пра звальненні, скарачэнні, змяншэнне заробку і гэтак далей, а тэрмінова праверыць тыя звесткі ўжо магчымасці не будзе. З'явіцца шмат «завадскіх блогераў», якія будуць апераваць чуткамі і настроямі, а не фактамі. Што, зноў жа, вядзе да няўпэўненасці і падштурхоўвае той самы сацыяльны выбух.

Навошта гэта ўсё робіцца? Напэўна, таму, што далей будзе горш. І галоўны паказчык таго, што будзе горш, — скарачэнне дзяржпадтрымкі тым самым прадпрыемствам, пра становішча якіх мы больш не даведаемся. Сёлета дзяржава вырашылі выдаць толькі 1,9 мільярда рублёў дырэктыўных крэдытаў. У мінулым годзе гэты ліміт быў устаноўлены на ўзроўні 2,8 мільярда рублёў. То бок, дзяржпадтрымка скарачаецца аж удвая!

Грошай няма. Трымайцеся.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Ганна Канапацкая

**Дэпутат парламента ад АГП звярнулася да кіраўніка Беларусі з патрабаваннем адмяніць так званы «дэкрэт аб дармаедах».**

Пра гэта Ганна Канапацкая паведаміла на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

«Буду нешматслоўная. Сёння я звярнулася да Лукашэнкі. Дэкрэт № 3 «Аб прадухіленні сацыяльнага ўтрыманства», які ва ўсёй краіне называюць дэкрэтам аб дармаедах, павінен быць безумоўна адменены ў самы бліжэйшы час. Без усялякіх агаворак, дапрацовак і інш. Адменены — і кропка!» — напісала Канапацкая.

У звароце, адрасаваным прэзідэнту, Канапацкая піша, што эканоміка краіны ўступіла ў небяспечны структурны, сістэмны крызіс. У гэтых умовах людзі і так жывуць у стане нявызначанасці і страху страціць працу, а падатак на дармаедства выклікае «дадатковае раздражненне і абурэнне».

Яна паказвае, што, па разліках прыхільнікаў гэтага падатку, казна краіны павінна была атрымаць ад яго паступленняў прыкладна 100 мільёнаў долараў. Аднак на справе гэта сума складзе ў лепшым выпадку каля 5 мільёнаў долараў, а выдаткі, звязаныя з выкананнем дэкрэта, у 100 разоў перавысяць гэтыя паступленні. «І гэта без уліку вельмі негатыўнага стаўлення людзей да падатку на дармаедаў і эрозіі даверу да ўлады, якую ён выклікае», — заўважае дэпутат.

«Я заклікаю вас адмяніць дэкрэт №3 «Аб прадухіленні сацыяльнага ўтрыманства» ад 2 красавіка 2015 года. У выпадку неабходнасці я гатовая выкласці сваю пазіцыю ўсім зацікаўленым органам дзяржкіравання», — піша ў звароце Канапацкая.



## Уладзімір Макей

**Кіраўніка Міністэрства замежных спраў абвінавацілі ў падрыхтоўцы дзяржперавароту ў Беларусі.**

На сайце EurAsia Daily з'явіўся артыкул дырэктара цэнтра па працы з выпускнікамі Вышэйшай школы эканомікі (Масква) Дзмітрыя Балкунца «Як дзейнасць кіраўніка МЗС Беларусі ўплывае на адносіны Мінска і Масквы».

Балкунец напісаў: «Ёсць падставы меркаваць, што пры ўдзеле Макея вядзецца планамерная работа па неканстытуцыйнай змене ўлады ў рэспубліцы па ўкраінскім сцэнары». Гэтую выснову ён робіць з таго, што Макей – міністр замежных спраў Беларусі. А Парашэнка займаў такую ж пасаду ва Украіне.

Вялікае абурэнне маскоўскага палітолага выклікае тое, што цяпер вядуцца перамовы пра ўзнаўленне працы пасольства ЗША ў Мінску. Апроч таго, Балкунец лічыць Макея вінаватым у арышце прарасійскіх публіцыстаў за распальванне міжнацыянальнай варожасці, у ноце пратэсту расійскаму боку ў сувязі з заявай Леаніда Рашэтнікава адносна беларускай мовы і дзяржаўнасці, а таксама наведванне Макеем «лініі акупацыі» ў Грузіі.

«Глупства і дурасць мы не каментуем. Няхай Балкунец працягвае смактаць палец. Рэакцыі МЗС на такія недарэчныя абвінавачванні не будзе», — заявіў прэсавы сакратар МЗС Беларусі Дзмітрый Міронччык на просьбу «Радыё Свабода» пракаментаваць артыкул Балкунца.



## Віктар Ганчарэнка

**Былы настаўнік БАТЭ правёў першую трэніроўку ў якасці настаўніка ЦСКА.**

Армейцы трэніруюцца ў Іспаніі, паведамляе sport-express.ru.

З'яўленне Ганчарэнкі на капітанскім мастку цяжка лічыць дэбютам, бо ён практычна паўсезона працаваў у ЦСКА ў якасці старэйшага трэнера.

«Кідаецца ў вочы, што трэнер і каманда прыглядаюцца адзін да аднаго, у калектыве пакуль няма ранейшай расслабленасці, калі гульцы са Слуцкім ведалі адзін аднаго выдатна. Ганчарэнка — чалавек на самай справе жорсткі, з псіхалагічнага пункту гледжання зусім іншага фармату, чым папярэднік (хаця погляды на футбол, тактыку, падрыхтоўку ў іх месцамі падобныя). Няма сумневаў, што беларускі трэнер будзе паводзіць сябе інакш, чым калі быў памочнікам Слуцкага», — піша выданне.

Аб прызначэнні 39-гадовага беларускага спецыяліста Віктара Ганчарэнкі на пасаду галоўнага трэнера ЦСКА паведаміў у снежні. Беларус змяніў на пасадзе Леаніда Слуцкага. Кантракт беларускага трэнера падпісаны на 2 гады з опцыяй падаўжэння.

а | Азбука паліталогіі

# «Матрыца задач» як апошні довад


Сяргей НІКАЛЮК

**Студзень — час фантазаваць на тэму бліжэйшых перспектыў беларускай мадэлі.**

На першы погляд, паміж мінулым, сучаснасцю і будучыняй існуе лінейная сувязь. Але гэта побытавае ўяўленне. На мяжы IV–V стагоддзяў нашай эры жыў хрысціянскі багаслоў Блажэнны Аўгустын. Ён адмаўляў мінуламу і будучыні ў праве на існаванне, мяркуючы, што ёсць толькі тры віды гэтага: мінулае сучаснасці, цяперышчына сучаснасці і будучыня сучаснасці.

Зразумець гэта даволі проста. Што азначае для кожнага з нас мінулае? Толькі тое, што мы думаем пра яго ў рэжыме тут і цяпер. Напрыклад, на думку галоўнага героя «азбук паліталогіі», 25 гадоў таму ён быў адзіным дэпутатам, які прагаласаваў супраць Белавежскага пагаднення. Але асабіста для мяне і для ўсіх, хто меў магчымасць трымаць у руках пратакол гістарычнага галасавання, такога мінулага ніколі не існавала.

Мінулае, сучаснасць і будучыня ў кожнага свае, і разгортваецца гэта тройца адначасова. Таму любая спроба прагнозу ўпіраецца ў разуменне сучаснасці, з якой, як стрэлы з цыбуліны, вырастаюць магчымыя варыянты будучыні, і як карані прарастаюць варыянты мінулага.




### Чатыры сцэнары

Па якім сцэнары жыла беларуская мадэль у мінулым годзе? Колькі людзей — столькі і меркаванняў. Але, каб спрасціць пошукі адказу, я прапаную набор найбольш верагодных сцэнарных варыянтаў: крызісны, інерцыйны, кансерватыўны і мадэрнізацыйны.

Які сцэнар афіцыйна дэкларуецца? Адказ на гэта пытанне знойдзем у перадвыбарчай праграме адзінага палітыка (АП) узору 2015 года. Прывяду ключавыя цытаты: «Нам нельга страціць тое, што ўжо дасягнута». «Перш за ўсё мы павінны абараніць тое, што ўжо створана». «Што маем — не захоўваем, страціўшы — плачам», — так кажа народная мудрасць».

Выбар на карысць кансерватыўнага (ахавальнага) сцэнару відавочны. Праз тры месяцы ў навагоднім віншаванні ён быў дапоўнены падрабязнасцямі, якія палохалі: стары парадак руйнуецца, ідзе новы перадзел свету, і ў гэтай «абстаноўцы мы яшчэ вастрэй адчуваем велізарную каштоўнасць спакою, міру і згоды ў нашай краіне. На вялікае шчасце, нам удаецца зберагчы Беларусь ад войнаў, тэрарызму і ўнутранай смуты».

Вось такая цяперышчына сучаснасці. Калі з усіх правоў чалавека актуальным становіцца толькі права на жыццё, тады згадкі трохгадовай даўніны пра мадэрнізацыю і асцярогі «застацца на ўзбочыне гісторыі» пачынаюць успрымацца як блюзнерства.

Так, на ўзбочыне, але жывыя! І няхай «сучасная цывілізацыя — гэта цывілізацыя пастаяннага паскарэння», мы яшчэ паглядзім, куды яе выкіне на чарговым гістарычным віражы. І глядзець мы будзем з Беларусі, якая пад мудрым кіраўніцтвам самі ведаеце каго ў наш дынамічны час застаецца цытадэллю «традыцыйнай культуры і маралі».

Але не ўсё, што ў палітыцы дэкларуецца, атрымліваецца рэалізаваць на практыцы. Калі замест абяцанага, няхай і нязначнага росту даходаў насельніцтва назіраецца іх устойлівае падзенне, дык ці не сведчыць гэта пра фактычную рэалізацыю крызіснага сцэнару?

Кансерватыўны сцэнар ва ўмовах істотнага пагаршэння знешняй кан'юнктуры можа запатрабаваць ад кіраўніцтва краіны нестандартных рашэнняў не ў меншым аб'ёме, чым сцэнар мадэрнізацыйны. Аднак з упартасцю, вартай лепшага прымянення, АП працягвае паўтараць пра нязменнасць першапачатковага курсу, рашуча спыняючы пры гэтым любыя рэфарматарскія ініцыятывы ўрада.

Такім чынам, фактычна мы маем інерцыйны сцэнар з высокімі шанцамі трансфармацыі ў сцэнар паўнавартаснага сістэмнага крызісу.

### Кожнаму па 500

Лістапад запомніўся нечаканым вяртаннем да народа тэмы сярэдняга заробку ў 500 долараў. Чым скончылася першая яе рэалізацыя, мяркую, беларусы яшчэ не забылі. Калегі па аналітычным цэху, натуральна, пачалі ацэньваць шанцы рэалізацыі чарговай ініцыятывы АП.

Нагадаю, даручэнне пра выхад на сімвалічную адзнаку было агучана 14 лістапада ў час рабочай паездкі АП у Магілёў. Цытую: «Я не кажу, што павінны плаціць незаробленыя грошы. Ні ў якім разе. Інакш мы вернемся да таго, з чаго пачыналі два гады таму. Мы павінны стымуляваць, падштурхоўваць кіраўнікоў прыватных і дзяржаўных прадпрыемстваў да таго, каб мы да 500 долараў наблізіліся. Трэба людзей падтрымліваць, што б там ні было».

Рэкамендую ўважліва перачытаць цытату. У пачатку АП перасцерагае ад выплаты незаробленых грошай. Але заканчвае тым, што пастаўленая задача павінна быць выканана «што б там ні было».

Праз тры дні на прэс-канферэнцыі для прадстаўнікоў расійскіх рэгіянальных СМІ АП быў максімальна канкрэтны: «Памерці, але выйсці на 500. Я буду рабіць усё, каб мы выйшлі на 500».

Каму канкрэтна трэба будзе памерці, ён не ўдакладніў. Ад сябе дадам, што апошняе абавязацельства ў афіцыйныя тэксты не патрапіла. Яно адсутнічае на сайце АП, няма яго і ў тэксце, апублікаваным у «Савецкай Беларусі».

Павышаць заробкі АП плануе за кошт росту прадукцыйнасці працы. Нічога асаблівага беларускага ў гэтым няма. Так робіць увесь свет, інвестуючы штогод трыльёны долараў у новае абсталяванне, тэхналогіі і павышэнне кваліфікацыі работнікаў. Сучасны эканамічны рост — гэта рост інавацыйны. Як тут ні прыгадаць манцёра Мечнікава: «Раніцай грошы — днём крэслы, днём грошы — увечары крэслы...» Можна і наадварот. «Але грошы наперад!»

За студзень-кастрычнік 2016 года выдаткі на набыццё машын, абсталявання і транспартных сродкаў скараціліся ў Беларусі на 24,3%. Годам раней за аналагічны перыяд скарачэнне склала 26,6%. Доля інвестыцый у ВУП апусцілася да 18%. З такім паказчыкам ні адна нацыянальная эканоміка яшчэ не расла.

Але беларускай мадэлі астатні свет не ўказ. Рост прадукцыйнасці працы будзе забяспечаны за кошт падштурхоўвання і падсцёбвання кіраўнікоў. У поўнай адпаведнасці з канстытуцыйнай роўнасцю ўсіх формаў уласнасці (артыкул 13) кухталямі ды бізуном плануецца стымуляваць у роўнай ступені кіраўнікоў як прыватных, так і дзяржаўных прадпрыемстваў.

### Ultima ratio

Праблема спалучэння агульнага (дзяржаўнага) інтарэсу з інтарэсамі прыватнымі і групавымі актуальная для любой краіны. Упершыню яна была пастаўлена яшчэ Платонам, і ў большасці краін, якія развіваюцца, застаецца адкрытай па гэты дзень.

Тэхналагічная мадэрнізацыя ў адказ на знешнія выклікі прад'яўляе павышаныя патрабаванні да якасці асобасных рэсурсаў кіраўнікоў і да ўзроўню іх мабілізацыі. «У такія перыяды, — адзначае палітолаг Ігар Клямкін, — і на самай справе, «кадры вырашаюць усё». Аднак для незаходніх краін гэтая праблема пагаршалася яшчэ і тым, што ім трэба было пазычаць заходнія дасягненні, не маючы за плячыма той гістарычнай эвалюцыі, прадуктам якой яны з'яўляліся».

Беларускім варыянтам адказу на знешнія выклікі ў 2016 года стала «матрыца задач для вертыкалі ўлады». Пра яе існаванне АП абвясціў 18 красавіка, прымаючы справаздачу ўрада, Нацбанка і аблвыканкамаў.

За нязвыклым для нетрэніраванага вуха фразеалагізмам хаваецца ліст паперы, на якім чырвоным колерам пазначана тое, што зроблена, сінім — поспехі ў выкананні планавых заданняў. У красавіку, паводле заявы АП, дамінаваў чырвоны колер.

Не выключана, што матрыца задач — гэта ўсяго толькі сінонім кухталёў і бізуна, з дапамогай якіх плануецца мабілізацыя «вертыкальшчыкаў» усіх узроўняў. Прынамсі кожная публічная яе згадка суправаджаецца заявамі пра тое, што ўсе прынятыя рашэнні «павінны няўхільна выконвацца, чаго б гэта ні каштавала».

У XVII стагоддзі кардынал Рышэлье распарадзіўся на ўсіх гарматах, што адліваліся ў Францыі, чаканіць лацінскі надпіс — «Ultima ratio regum» («Апошні довад каралёў»). Я мяркую, што паралель, якая тут напрошваецца, зразумелая. «Матрыца задач» — гэта Ultima ratio АП на сучасным этапе развіцця беларускай мадэлі. У гэтым, на мой погляд, і палягае галоўны вынік 2016 года.

Але колькі ні кажы «халва», саладзей у роце не стане. Адкрыем тэкст дакладу на пятым Усебеларускім народным сходзе. Сярод галоўных прыярытэтаў — павышэнне эфектыўнасці дзяржаўнага кіравання. Рухацца ёсць куды: пад апаратыўным кіраваннем міністэрстваў і канцэрнаў знаходзіцца амаль палова чыстых актываў эканомікі (1.005 арганізацый). Але пры гэтым уклад іх у агульную выручку па краіне не перавышае 25%.

2017 год — юбілейны! Юбілей дзвюх рэвалюцый. На думку АП, беларусы свой рэсурс рэвалюцый вычарпалі ў мінулым стагоддзі. Такімі яму бачацца цяперышчына сучаснасці і бліжэйшая будучыня сучаснасці. Але тут ёсць з чым паспрачацца.

Рэвалюцыі немагчымыя без разрыву адносін паміж палітычнай элітай і грамадствам. «Для пачатку рэвалюцыі, — падкрэслівае гісторык Аляксандр Калганаў, — характэрная «слепата ўлады», якая ва ўпор адмаўляецца бачыць наяўнасць надзённых праблем, ці, па меншай меры, недаацэньвае іх вастрыню. Гэта характэрна і для Смуты XVII ст., і для рэвалюцыйных падзей пачатку і канца XX ст.».

Спроба адказаць на выклікі, з якімі сёння сутыкаецца беларуская мадэль, з дапамогай «матрыцы задач» — яскравы прыклад акуклівання ўлады, замыкання яе на саму сябе. Працэс гэты пачаўся не сёння і не заўтра скончыцца, але ў мінулым — 2016-м — годзе ўлада мэтанакіравана працавала над узмацненнем сваёй слепаты.

# Гандлёвая вайна ў стылі «хай-тэк»



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Падобна, што ў 2017 годзе Беларусь і Расію чакае яшчэ адна гандлёвая вайна.**

Як вядома, паводле пастановы Савета міністраў №849, з 1 лютага 2017-га ўся ўвазная ў Беларусь бытавая тэхніка і кампутарная электроніка, а таксама сродкі сувязі і алкагольныя напоі павінны сертыфікавацца. Галоўнае тут тое, што патрабаванне ўрада распаўсюджваецца і на тавары расійскай вытворчасці.

Першапачаткова на гэтую пастанову асаблівай увагі не звярнулі. І толькі ў самым канцы лістапада расіяне забілі трывогу. Асацыяцыя гандлёвых кампаній і тавараватворцаў электрабытавой і кампутарнай тэхнікі (РАТЭК) напісала ліст на імя першага віцэ-прэм’ера Расіі Ігара Шувалава. У ім, у прыватнасці, сцвярджаецца, што з 1 лютага «ўзнікае тэхнічны бар’ер у гандлі паміж дзяржавамі — чальцамі Еўразійскага эканамічнага саюза (ЕАЭС)... Пастаўка бытавой тэхнікі з Расіі ў Беларусь праз два месяцы будзе абцяжараная».

Праз пару дзён ужо беларуская Асацыяцыя кампаній інфармацыйных тэхналогій (АКІТ) накіравала аналагічны ліст на імя прэм’ера Беларусі Андрэя Кабякова. У ім было заяўлена, што «пастанова паралізуе пастаўкі ў Беларусь бытавой тэхнікі, створыць дэфіцыт і ўмовы для росту шэрага рынка».

Абурэнне бізнесоўцаў не засталося незаўважаным. 13 снежня на пасяджэнні ўраду пастанову №849 абмеркавалі зноў. Вынік — вусная заява віцэ-прэм’ера Уладзіміра Сямашкі пра тое, што пачатак сертыфікацыі можа быць перанесены з 1 лютага 2017-га на 1 ліпеня 2018-га.

Але ці ўвасобіцца тая заява ў нейкі дакумент? Тут ёсць моцныя сумневы.

### Крыху гісторыі

Яшчэ некалькі гадоў таму завезеныя па шэрых каналах бытавая тэхніка і электроніка ў Беларусі амаль дамінавалі на рынку. Звычайна завозілася ўсё з Польшчы або Літвы.

Сітуацыя змянілася пасля валютнага крызісу снежня 2014-га і істотнага падзення курсу расійскага рубля. З таго часу стала больш зручна імпартаваць тэхніку з Расіі — тым больш, што за апошняе дзесяцігоддзе вялікая колькасць сусветна вядомых брэндаў пабудавалі ўласныя зборачныя вытворчасці ў РФ. Спрыяла развіццю цывілізаваных паставак і падпісанне дамовы пра стварэнне ЕАЭС. Увезеная па шэрых схемах бытавая тэхніка практычна перастала сустракацца на беларускім рынку (акрамя мабільных тэлефонаў і смартфонаў, якія ўсё роўна было больш выгодна заказваць з Кітаю).

Я пабачыў гэта на ўласным досведзе. Набыты ў 2013 годзе тэлевізар LG быў з дакументамі на польскай мове, а Philips, які прыйшоў яму на змену паўтара гады таму, ужо быў сабраны ў Расіі.

### Чаго дамагаецца ўрад?

Зразумела, што прынятая пастанова — калі б яе ні ўвялі ў дзеянне — значна ўскладніць жыццё імпарцёрам бытавой і кампутарнай тэхнікі, а таксама сродкаў сувязі і алкаголю. Дэ-факта аднаўляецца Нацыянальная сістэма пацвярджэння адпаведнасці, распрацаваная ў 2004 годзе замест Нацыянальнай сістэмы сертыфікацыі з улікам міжнародных і еўрапейскіх патрабаванняў.

Узнікае лагічнае пытанне: навошта гэта робіцца? Традыцыйную міністэрскую аргументацыю «для абароны айчыннага спажыўца» можна да ўвагі не прымаць, бо існуе Дамова аб звароце прадукцыі на тэрыторыі Мытнага саюза, якая пераследуе тыя ж мэты. Да таго ж, пастанова №849 наўпрост супярэчыць Дамове аб Еўразійскім эканамічным саюзе, які ўказвае, што ўваходзячыя ў ЕАЭС дзяржавы забяспечваюць зварот прадукцыі без прад’яўлення дадатковых патрабаванняў і без правядзення дадатковых працэдур ацэнкі адпаведнасці.




Казаць пра «абарону айчыннага вытворцы» таксама не выпадае. Так, у Беларусі выробляюцца мікрахвалёвыя печы, халадзільнікі, пральныя машыны і правадныя тэлефоны — як і разнастайны алкаголь. Але выпуск, напрыклад, тэлевізараў ужо цалкам сышоў на нішто: восенню 2015-га «Віцязь» і «Гарызонт» наогул спынялі іх вытворчасць. Кампутарная тэхніка, друкаркі-сканеры і іншыя разнастайныя гаджэты ў Беларусі наогул не выробляюцца. Як і абсталяванне для сувязі: хіба толькі ADSL-мадэмы для кліентаў «Белтэлекама» ў нас спрабуюць збіраць сумесна з «Промсвязью» кітайскія ZTE і Huawei — і гэта практычна ўсё.

Застаецца адзін варыянт — палітычны. Беларускія ўлады знайшлі «болевую кропку» расійскага бізнесу, які пасля 1 лютага можа страціць немалыя прыбыткі. Па дадзеных Федэральнай мытнай службы Расіі, аб’ём экспарту электратэхнікі з Расіі ў Беларусь за дзевяць месяцаў 2016 года склаў каля 395 мільёнаў долараў. А калі сюды дадаць яшчэ і алкаголь, лічба як мінімум падвоіцца.

### Што будзе?

Афіцыйныя пастаўшчыкі ў Беларусь бытавой тэхнікі і кампутарнай электронікі апынуцца ў вельмі цяжкім становішчы. Па-першае, працэдура і дакладны кошт сертыфікацыі яшчэ канчаткова не вызначаныя.

Па-другое, «серыйная» сертыфікацыя праводзіцца толькі па заяўцы ад вытворцы з выездам экспертаў на завод-вытворцу і аплатай у валюце. Пры гэтым асобны сертыфікат давядзецца атрымліваць на кожную партыю, нават калі пастаўшчык увозіць адны і тыя ж мадэлі. «Шматгадовы досвед працы арганізацый з беларускімі органамі па сертыфікацыі дазваляе цвёрда ацаніць тэрмін правядзення сертыфікацыі ў 2,5–4 месяцы пры выдатках як мінімум 4–5 тысяч долараў», — гаворыцца ў звароце расійскіх гандлёвых кампаній да іх першага віцэ-прэм’ера.

Беларускія кампаніі-імпарцёры, зрэшты, лічаць, што больш будуць пакутаваць менавіта яны. «Сітуацыя адаб’ецца першым чынам на беларускіх кампаніях. Яны зноў трапляюць у няроўныя канкурэнтныя ўмовы з арганізацыямі з іншых краін Еўразійскага эканамічнага саюза, — за кошт падаражання выдаткаў на паралельную сертыфікацыю ў Беларусі. Апроч таго, кампаніі прайграюць канкурэнцыю «чарнавозам» і інтэрнэт-крамам, якія ў вялікай колькасці прадаюць тавар, увезены з Еўропы і Расіі, без выплаты падаткаў», — аргументуе ў лісце да Кабякова дырэктар АКІТ Зміцер Ананьеў.

На думку экспертаў Асацыяцыі, нават тэарэтычна да 1 лютага 2017 года не атрымаецца правесці сертыфікацыю стандартнага асартыменту. У прыватнасці, сертыфікацыя халадзільніка не толькі абыходзіцца вельмі дорага (7,2 тысячы дэнамінаваных рублёў) за мадэль, але і займае 25 сутак. Гэта значыць, адзіны існуючы ў краіне выпрабавальны стэнд на шэсць месяцаў нават пры поўнай загрузцы паспее сертыфікаваць да лютага толькі 18 мадэляў халадзільнікаў, пры тым што ў продажы сёння прысутнічае каля 200 мадэляў.

Што мы атрымліваем у выніку? Адраджэнне «шэрых» і «чорных» схем імпарту ў Беларусь рознага кшталту электронікі, бытавой тэхнікі, кампутарнага абсталявання і алкагольнай прадукцыі.



# Анёлы і дэманы Другой

Алесь КІРКЕВІЧ

**Гісторык Алесь Гелагаеў пра калабарацыю, акупацыю, карнікаў ды матывы, якія прымушалі беларусаў ваяваць па розныя бакі барыкадаў.**



Алесь Гелагаеў

Нягледзячы на час, які прайшоў ад канца Другой сусветнай вайны, памяць пра тыя падзеі дагэтуль не толькі жыве, але і надалей дзеліць беларусаў на «паліцаяў» ды «партызанаў», «правільных» ды «няправільных». Як разабрацца ў тых падзеях «на халодную галаву» ды аддзяліць факты ад прапаганды і домыслаў?

Сваімі меркаваннямі дзеліцца Аляксандр Гелагаеў, ваенны аглядальнік ды гісторык, які спецыялізуецца на вывучэнні супрацьстаяння ў Беларусі ў 1941–1944 гадах.

## Кожны, хто прыходзіў пасля 25 сакавіка 1918-га, — «акупант»

***— Наколькі справядлівыя самі тэрміны «калабарацыя» ды «калабаранты»?***

— Ад тэрміна «беларуская калабарацыя» варта наогул адмовіцца, бо насамрэч мы маем справу з наступнай з'явай: беларускі нацыянальны рух падчас Другой сусветнай вайны. Улічваючы, што на той час Беларусь не мела сваёй дзяржаўнасці, мы альбо ўсіх, хто супрацоўнічаў з чужынцамі — з палякамі, з савецкімі, з немцамі, — называем калабарантамі, альбо — нікога.

У першым выпадку сам тэрмін губляе сэнс, бо ў той ці іншай меры супрацоўнічалі ўсе беларускія дзеячы. Гэта ж будзе несправядліва ў тым ліку да беларусаў, якія ваявалі ў Чырвонай Арміі ды лічылі, што ваююць за сваю зямлю. Гэтаксама маглі лічыць беларусы ў складзе Арміі Краёвай альбо Украінскай Паўстанчай Арміі.

***— То бок падзеі Другой сусветнай вайны ў Беларусі варта было б разглядаць як грамадзянскую вайну?***

— Таксама не, бо гэта не была вайна, скажам, паміж дзвюма беларускімі партыямі. Размова, хутчэй, пра ўзброены канфлікт на нашай тэрыторыі, які меў рысы грамадзянскай вайны, бо насельніцтва сапраўды было моцна падзеленае: і сацыяльна, і нацыянальна, і рэлігійна…

***— Тады і тэрмін «акупацыя» не зусім правамерны, паколькі незалежнай беларускай дзяржавы не было? Альбо ўжо казаць адначасна пра польскую ды савецкую акупацыю.***

— У прынцыпе, так. Тэрмін «акупацыя» адносна польскага панавання ў міжваеннай Заходняй Беларусі сапраўды быў у карыстанні сярод беларускіх дзеячаў. Была нават тагачасная брашура: «Беларусь пад польскай акупацыяй». Наогул жа, калі мы адлічваем сваю дзяржаўнасць ад 25 сакавіка 1918 года, то хто б пасля ні прыходзіў і ні дзяліў наш край, ажно да 1991 года, заўжды з'яўляўся акупантам.



Выпускнікі камандзірскіх курсаў БКА падчас урачыстага маршу. Чэрвень 1944 года

## Фактычна ўсе беларускія нацыяналісты легалізаваліся пры немцах

***— Наколькі масава дзеячы беларускага нацыянальнага руху падтрымлівалі немцаў падчас вайны?***

— Фактычна ўсе беларускія нацыяналісты, якія на той час займалі актыўную пазіцыю ды засталіся на занятай немцамі тэрыторыі, легалізаваліся і пачалі працаваць пры новай уладзе. Зрэшты, тое ж самае адбылося і ў БССР у 1920-я гады. Тады акурат вялікая колькасць дзеячаў БНР пераехала ў Савецкі Саюз, бо лічыла, што тут ёсць магчымасць працаваць на беларускую ідэю. Яны плённа працавалі, толькі праз кароткі час іх усіх перастралялі.

Гэта была такая ж самая супраца з небеларускай палітычнай сілай, якая захапіла ўсходнюю частку нашай краіны, замацавалася, а пасля пайшла на пэўныя саступкі для беларускіх патрыётаў.

***— Беларусізацыя пад нямецкім панаваннем — гэта міф ці рэальнасць?***

— Вельмі часта ўсё залежала ад таго, наколькі мясцовыя беларусы праяўлялі сваю актыўнасць. Як вядома, не ўся Беларусь у сучасных межах трапіла ў «Генеральную акругу Беларусь», паводле нямецкага тэрытарыяльнага дзялення. Таму тэрыторыі, якія туды не трапілі — Гродна, Брэст, Віцебск, Магілёў, Гомель, — пачуваліся вельмі па-рознаму.

Калі збіралася крытычная маса беларусаў і ўтварала ўмоўны Беларускі Нацыянальны Камітэт, тады яны мелі нейкі голас, з якім ішлі да нямецкага начальства і патрабавалі не польскую ці рускую школу, а беларускую. Напрыклад, у Магілёве такіх людзей наогул не знайшлося: яны ўсе былі фізічна вынішчаныя ў 1930-х гадах альбо эмігравалі.

## З дапамогай немцаў трэба было даць беларусам зброю

***— Вельмі часта кажуць пра «паліцыю», якая падчас нямецкага панавання рабіла ў Беларусі «чорныя справы». Ці была нейкая адзіная паліцыя, альбо гэта сетка цалкам розных структураў?***

— Беларускі нацыянальны рух быў тады не такім моцным і развітым, каб стварыць свае паліцэйскія сілы па ўсёй тэрыторыі. Таму немцы перакідвалі сюды латышскія, літоўскія, эстонскія, украінскія ды іншыя батальёны паліцыі. Тут жа дзейнічалі «ўласаўцы» ды іншыя расійскія альбо шматнацыянальныя фармаванні.

Беларускіх дзеячаў такая сітуацыя не задавальняла, бо для замежнай паліцыі ці войск аховы тылу было важна альбо «адсядзецца» і не змагацца з партызанамі. Альбо чужынцы вынішчалі мясцовае насельніцтва, не разбіраючыся, хто правы, хто вінаваты, бо прасцей для іх было «супакойваць» раён менавіта такім чынам. Таму беларусы былі зацікаўленыя ў стварэнні сваіх паліцэйскіх частак, якія б стрымлівалі савецкіх і польскіх партызанаў ды адначасна маглі паразумецца з мясцовымі ды на ўсім разабрацца, без выпадковых ахвяраў сярод насельніцтва.

***— Адначасна, як я разумею, беларуская паліцыя мелася быць і зачаткам беларускага войска?***

— Так, важным фактарам было таксама з дапамогай немцаў даць як мага большай колькасці беларусаў у рукі зброю. Бо ідэяй беларускіх дзеячаў падчас Другой сусветнай вайны было паўтарэнне сітуацыі канца Першай сусветнай. Тады ў беларусаў з'явілася магчымасць абвесціць сваю незалежнасць 25 сакавіка 1918 года, але — у адрозненне ад Літвы і Польшчы — не знайшлося дастатковай колькасці ўзброеных байцоў, каб яе абараніць. Прыбалты, палякі ды іншыя больш актыўна супрацоўнічалі з Германіяй альбо Аўстра-Венгрыяй. Таму падчас развалу Расіі ды краху Германіі яны мелі больш магчымасцяў, каб адстаяць сваю незалежнасць.

Таксама разважалі і беларусы: новая вайна паміж імперыямі — гэта новы шанец. Была верагоднасць, што і Савецкі Саюз развалiцца, і Райх надарвецца. І гэтым трэба было карыстацца. Але на «момант Х» ужо мусіў быць касцяк падрыхтаваных узброеных людзей. Пра такую ідэю сярод беларускіх нацыяналістаў кажуць нават дакументы НКУС 1941 года, нават да пачатку вайны.



Беларускі паліцыянт, сучасная рэканструкцыя

Тут не важна нават, што гэтая надзея на незалежнасць не спраўдзілася. Гэта быў адзіны варыянт, пры якім штосьці ўвогуле можна было зрабіць. Калі ў цябе ёсць верагоднасць выжыць хаця б 20 працэнтаў, ты ж не будзеш сядзець і чакаць, але паспрабуеш нават гэты шанец выкарыстаць.

## Палякі і французы — прыклад «прагматычнага супраціву»

***— Некаторыя «эксперты» зараз кажуць, што беларусы мусілі б ваяваць і супраць немцаў, і супраць Саветаў на два фронты…***

— Нідзе такі варыянт не прывёў да пазітыўных наступстваў. У Прыбалтыцы людзей выжыла значна болей, чым у Беларусі. Там не было буйнога антынямецкага партызанскага руху, затое была мясцовая адміністрацыя ды паліцыя, якая аператыўна знішчала савецкіх дыверсантаў.

УПА спрабавала ваяваць на два фронты, але ніякага пазітыўнага выніку, акрамя таго, што пасля вайны можна было казаць, маўляў, мы таксама ваявалі супраць немцаў, не было.

***— А як жа польская Армія Краёва?***

— Яны таксама нічога не дасягнулі. Калі звяртацца да дакументаў, дык у Беларусі АК практычна не ваявала супраць немцаў. Усе вялікія нямецкія антыпартызанскія аперацыі былі скіраваныя супраць савецкіх партызанаў. Палякі не маглі легальна ствараць свае ўзброеныя фармаванні пры немцах, бо Польшча афіцыйна ваявала з Германіяй у 1939-м. Таму яны наўпрост назапашвалі людзей ды зброю і рыхтаваліся да зручнай сітуацыі, каб выступіць.

Да таго ж вядомыя факты супрацоўніцтва АК з нямецкімі структурамі з мэтай змагання супраць савецкіх партызан на Лідчыне і Навагрудчыне. Усё гэта аказалася даволі прагматычна. Бо тыя раёны, дзе дзейнічала АК і не было савецкіх партызанаў, пацярпелі значна

# Сусветнай у Беларусі

меней, чым Усходняя Беларусь, дзе шчыравалі савецкія партызаны, якімі кіравала Масква. А Маскву не цікавіла, колькі выжыве беларусаў, цікава было адно падарваць нямецкую лагістыку і жыццядзейнасць у тыле войскаў.

Возьмем славуты французскі рух Супраціву. Да апошніх месяцаў нямецкай акупацыі яны не рабілі стаўкі на масавы партызанскі рух. Гэта былі збольшага агенты, якія паведамлялі інфармацыю ў Лондан ды зрэдку арганізоўвалі забойствы нейкіх ключавых фігураў — і ўсё!

І французы, і палякі паставілі не на «выпаленую зямлю», спаліўшы фактычна і ўласны дом, абы немцам было горш, а Маскве — лепш. Яны паставілі на падрыхтоўку да магчымага паўстання, калі пачнецца вызваленне. На тое ж паставілі і беларускія нацыяналісты, з той розніцай, што яны мелі магчымасць пры немцах дзейнічаць легальна, а французы ды палякі — не маглі.


За праўду і волю!
БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА
20 (238) Субота, 11 сакавіка 1944 г. Год выданьня IV
ЗА ЗБРОЮ, ЗА ВОЛЮ!
АДОЗВА Беларускай Цэнтральнай Рады
БЕЛАРУСЫ!
ЗАГАД Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады

Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады Р. АСТРОЎСКІ
Менск, дня 6. ІІІ. 1944 г.


Нямецкі афіцэр узнагароджвае маёра Буглая

### Карныя аперацыі як узаемная вендэта...

***— Як бы ты мог акрэсліць мяжу паміж беларускай паліцыяй і «карнікамі», якія палілі вёскі ды вынішчалі людзей? Бо ў грамадскай свядомасці звычайна ўсё змяшана ў адну кучу...***

— У кожным выпадку трэба разбірацца асобна, улічваючы фактар квазі-грамадзянскай вайны. Калі ў пэўным раёне вастрыня канфлікту дасягала такога градусу, што людзі ўжо не ваявалі з немцамі альбо з камуністамі, а пачыналі банальна помсціць за забітых сваякоў, то даходзіла да карных аперацыяў і з боку мясцовай паліцыі. Вядомыя выпадкі, калі паліцыянты, у якіх былі забітыя партызанамі сем'і, наўпрост хадзілі па хатах і стралялі партызанскія сем'і. Гэта — помста, узаемная вендэта.

Ёсць факты, што цэлыя вёскі, дзе жылі сем'і байцоў паліцыі, спальваліся савецкімі партызанамі. Ёсць кніга «Германскія ды калабаранцкія страты ў Беларусі ў гады ВАВ», аўтар К.Казак, дзе ўсё гэта згадваецца. Цытата: «...звяртаюць на сябе ўвагу нямецкія данясенні аб тым, што падчас нападаў на гарнізоны большую частку забітых складаюць цывільныя асобы».

Так, да прыкладу, партызанамі камандзіра Фураева ў 1942 годзе спаленая вёска Гулібава. Згодна рашэнню камандавання Асобага злучэння партызанскіх атрадаў Мінскай і Баранавіцкай вобласцяў, у 1942 былі расстраляныя жыхары вёскі і хутароў Даўнары. Як контррэвалюцыйная атрадам НКГБ «Баявы» была знішчана вёска Мацейкава Полацкага раёна. У снежні 1942 года разам з паліцэйскімі сем'ямі спаленая вёска Дакудава, і гэтак далей.

***— Найбольш вядомая партызанская «карная» аперацыя была праведзеная, здаецца, у Налібоках...***

— Слушна, у Нацыянальным Архіве ў мяне атрымалася знайсці паведамленне пачатку 1943 года, яшчэ напярэдадні нападу на Налібокі. Гэта данясенне чалавека, які збег ад партызанаў і прыйшоў у паліцыю: «Штаб бандытаў дасылае ў Самаахову паведамленне, каб не змагаліся супраць іх. У адваротным выпадку пагражаюць спаліць вёску і забіць усіх людзей». Гэта перадгісторыя падзеяў у Налібоках... Такіх гісторыяў, калі гэтым займацца сістэматычна, можна знайсці вельмі шмат.

Аналізуючы гэта ўсё, мы разумеем, што карныя аперацыі партызанаў супраць нелаяльных ім вёсак — гэта такая ж будзённая практыка, як і аперацыі нямецкіх карнікаў супраць «партызанскіх вёсак».

### Супраць беларускіх дзеячаў ёсць абвінавачванні, фактаў — няма

***— Хто ўсё ж такі збольшага паліў вёскі і забіваў з нямецкага боку: немцы, беларусы ці нейкі інтэрнацыянал?..***

— Усе вядомыя карныя аперацыі ў Беларусі былі здзейсненыя альбо немцамі, альбо прыбалтамі, рускімі ды ўкраінцамі. Зноў жа, «руская» ды «ўкраінская» батальёны — гэта вельмі ўмоўнае вызначэнне, там мог быць хто заўгодна. Калі згадаць той жа «ўкраінскі» батальён, які ўдзельнічаў у знішчэнні Хатыні, то збольшага ён сфармаваны з савецкіх вайсковых палонных, сярод якіх этнічных украінцаў было ад сілы 50%. То бок гэта людзі, якія пайшлі на супрацу, каб выратавацца з лагеру для палонных, дзе ўмовы зімой 1941–1942 былі вельмі цяжкія.

Карныя аперацыі, то бок знішчэнне мірнага насельніцтва, якія былі б зробленыя беларускімі паліцэйскімі батальёнамі альбо атрадамі Самааховы ці Беларускай Краёвай Абароны, — невядомыя. Калі нехта пра такія факты ведае — хай агучыць.

***— Калі казаць пра персаналіі — Міхала Вітушку, Змітра Касмовіча, Барыса Рагулю — ці заплямілі яны свае біяграфіі як-небудзь праз вынішчэнне мірнага насельніцтва?***

— Вядома, што Змiцеру Касмовічу, які працаваў у паліцыі на Смаленшчыне, закідаюць факт удзелу ў знішчэнні вёскі Каспля. У Нацыянальным архіве ёсць фонд Касплянскай партызанскай брыгады. Нічога пра ўдзел Касмовіча асабіста я там не знайшоў. А сам факт усплыў толькі ў 1980-я гады ў публіцыстычным выданні. Мне здаецца, што гэта можа быць наўпрост часткай кампаніі, скіраванай супраць беларускай эміграцыі, бо Касмовіч быў вядомым яе дзеячам. Такім чынам, ёсць абвінавачванні, а доказаў — зноў няма. Пра ўдзел Вітушкі, Кушаля, Рагулі і іншых у злачынствах я наогул нічога не чуў.

### Адзіны шлях да паразумення — казаць праўду

***— Наколькі моцнымі і эфектыўнымі былі беларускія фармаванні, створаныя пры немцах, з вайсковага пункту гледжання?***

— Немцы ўзнагароджвалі байцоў гэтых фармаванняў — яны ж не самі на сябе медалі вешалі. Наконт баяздольнасці структураў мы маем не так шмат інфармацыі, але нешта ведаем. Дзейнічаў, напрыклад, такі «Батальён Буглая» ва Усходняй Беларусі, хоць сам маёр Буглай быў з-пад Нясвіжа. Яго атрад пачынаўся з некалькіх дзясяткаў чалавек і вырас за тры гады да некалькіх сотняў. Прычым рост забяспечвала акурат мясцовае насельніцтва.

Важны паказчык, які адрознівае карнікаў ад баявых антыпартызанскіх фармаванняў, гэта данясенні пра забітых ворагаў ды вынятай у іх зброі. Нават Вільгельм Кубэ дакараў нямецкай паліцыі, маўляў, вы кажыце, што забітых 14 000 партызанаў, але трафейных вінтовак — 2 000... У Буглая лічбы заўжды былі адэкватнымі: колькі забіта, столькі і зброі знойдзена.

***— Ці можа быць нейкі шлях да нацыянальнага паразумення ў пытанні беларусаў, якія падчас Другой сусветнай вайны ваявалі па розныя бакі барыкадаў?***

— Адзіны шлях да паразумення — гэта казаць праўду пра тое, што тады адбылося. То бок, адмовіцца ад прынцыпу калектыўнай адказнасці, разумець матывацыю з аднаго і іншага боку. Мне, напрыклад, не падабаецца, калі ўсіх партызанаў кляймяць «бальшавіцкімі прыхваснямі», гэта абсалютна няслушна. Трэба разумець, што ўсе гэтыя людзі былі сынамі беларускай зямлі. І на той ці іншы бок яны часта сталі выпадкова. Яны змагаліся супраць таго зла, якое лічылі найбольшым.

І калі мы не будзем адной фарбай мазаць той ці іншы бок, а спрабуем чытаць дакументы, ацэньваць факты, улічваць кантэкст падзеяў, тады толькі ўбачым, што гэта была велізарная трагедыя для нашага народа. Але ў ёй не было, за пэўным выключэннем, дэманаў і анёлаў, а былі людзі, якія рабілі выбар у цяжкой сітуацыі і рызыкавалі сваім жыццём на любым баку.

Беларускія нацыяналісты, якіх зараз называюць «калабарантамі», тады зрабілі свой выбар, пайшоўшы на небяспечныя пасады, прымаючы неадназначныя рашэнні, але з адной мэтай — каб зрабіць нешта для сваёй краіны.

**Архіўныя сведчанні:**

«Литовцы хотели забрать под свое владение город Поставы, **но белорусская полиция литовцам запретила.** Когда литовцы приехали забирать Поставы, завязался бой между полицией (и) литовцами. Литовцы остались выбиты из города».

(Лістапад 1942 г. Інфармацыя сувязнога Мяфодзія Лысенкі, рукапіс. Вілейскі абкам КП(б)Б)

***

«По сообщению разведки бригады т.Тябут от 11.8.43 в апреле с.г. в Плисском районе Западной Белоруссии проводилась мобилизация в «добровольческую» армию. Большая часть мобилизованных была сконцентрирована в местечке Лужки... В связи с этим произошло вооруженное столкновение между «добровольческой» частью «РОА» и полицейскими... Насильно мобилизованные, воспользовавшись раздором между частью «РОА» и полицейскими, частью разбежались, а оставшихся немцы вынуждены были распустить».

Савецкая разведзводка

***

**«Сутулов Илья, уроженец д. Способы, 19.4.1914 г.р., женат, крестьянин на своей земле:**

«...Когда я 7.5.1943 в 12 часов хотел достать свои вещи, закопанные в лесу, чтобы спасти их от бандитов, я был задержан около деревни 7 вооруженными бандитами и приведен в (д.) Мешки (Сенненский р-н Витебской области). Там я был заперт в баню... Т.к. бандиты узнали, что я вместе с женой хотел бежать с деревни, чтобы уйти от бандитов, они хотели меня расстрелять.

10.5.1943 г. около 10 часов меня забрали 2 вооруженных бандита, чтобы отнести, якобы, мясо. После 2 км. марша бандиты приказали мне раздеться. Я неожиданно начал бежать, и бандиты стали позади стрелять, пистолетная пуля ранила меня в шею. Я пробился через леса и болота, пока не подошел на 100 метров от железной дороги. Я с поднятыми руками подошел к немецкому опорному пункту...».

406 грэнадзёрскі полк, зондэрфюрэр Якубоўскі, допыт «бандыта-перабежчыка ад 26.4.43».

***

**Воротинский Антон, 1921 г.р. Полоцкий район. Учитель, 2 детей, освобожден по болезни от службы в РККА.**

Прямая речь: «Бандиты, узнав, что большинство моих родственников работали в ОД (полиции порядка) в Полоте, напали на мою жену и мать в Старостенье и убили обеих. Я был арестован, в течение 3х дней тяжело допрошен и должен был быть расстрелян. Путем одоления охраняющего меня мне удалось бежать...

В Старостенье помощником бандитов является Жераков. Он обеспечивал бандитов сведениями о членах семей полицейских, выдавал укрытия беженцев из банд... Личный состав (партизан) одет в собственную одежду. Командование зачастую в награбленном. Обеспечение продовольствием тяжелое, так как вся окрестность уже ограблена...

Я бы хотел вступить в полицию, чтобы рассчитаться с бандитами с убийцами моей жены и матери. Бандиты приводят наш край в несчастье, они принесли населению только нужду, печаль и смерть».

**Усе сведчанні — Нацыянальны Архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Хто замовіў згвалтаванне Рагнеды?

Значнай падзеяй у культурным жыцці Расіі стаў фільм «Вікінг», які распавядае пра гісторыю старажытнага кіеўскага князя Уладзіміра. Пра фільм кажуць у тым ліку дзякуючы шэрагу скандалаў. Частка публікі незадаволеная тым, што стужка, на якую выдаткаваны больш за мільярд рублёў, апынулася вельмі слабой з мастацкага пункту гледжання і не вельмі адпавядае гістарычным фактам. Аднак усіх іншых крытыкаў «Вікінга» яўна пераплюнулі варонежскія журналісты. На мясцовым сайце «Четыре пера» з'явіўся тэкст, паводле аўтара якога фільм «Вікінг» замовілі... працаўнікі расійска-беларускай інтэграцыі! Справа ў тым, што ў карціне прысутнічае сцэна згвалтавання Уладзімірам полацкай княжны Рагнеды. Між тым, гэты момант можна было б і апусціць, паколькі ў летапісца Нестара пра той эпізод не гаворыцца. Гвалт з Рагнеды сапраўды згадваецца ў іншых летапісах, аднак менавіта творы Нестара пазначаныя ў цітрах як база для сюжэту карціны. Нашто спатрэбілася тая брудная сцэна, задаюць пытанне на сайце «Четыре пера» — і прапануюць адказ: каб справакаваць беларусаў, якія лічаць Полацкае княства падмуркам сваёй дзяржаўнасці, на антырасійскія настроі, і такім чынам разбурыць славянскае братэрства.

**Паводле расійскай прэсы**

### ТУРЦЫЯ. Знікла дынастыя султанаў

У Нью-Ёрку 9 студзеня 2017 года ва ўзросце 92 гадоў памёр Баязід Асманаглу — прадстаўнік славутага роду Асманаў, якія з 1299 па 1918 гады кіравалі Асманскай імперыяй. Баязід быў сынам аднаго з унукаў апошняга кіраўніка Асманскай імперыі, які збег з Турцыі пасля перамогі рэспубліканца Атацюрка. Нягледзячы на тое, што нябожчык не быў прамым нашчадкам апошняга султана, ён дзіўным чынам апынуўся асноўным кандыдатам на трон. У выпадку рэстаўрацыі манархіі ў Турцыі менавіта Баязід павінен быў стаць султанам і, магчыма, меў нейкія шанцы. Апошнім часам турэцкія ўлады пачалі кампанію настальгіі па былой імперыі, а на дзяржаўным тэлебачанні выйшаў фільм пра апошніх асманаў, што жывуць у эміграцыі і мараць пра вяртанне на радзіму. Так ці інакш, цяпер лінія Асманаў абрываецца, паколькі дзяцей у Баязіда не было. Цікава, што смерць апошняга з Асманаў прыйшлася на канстытуцыйныя рэформы у Турцыі, паводле якіх прэзідэнт Эрдаган, які мае мянушку «султан», атрымлівае фактычна неабмежаваныя паўнамоцтвы.

**Паводле турэцкай прэсы**

### ТАДЖЫКІСТАН. Шкарпэткі як спадчына чалавецтва

Таджыкская грамадскасць абураная выхадкай Філіпа Кіркорава. Вядомы расійскі выканаўца 2 студзеня ў забаўляльнай перадачы расійскага тэлебачання падараваў вядучаму праграмы Максіму Галкіну шкарпэткі, сказаўшы, што гэтыя балгарскія шкарпэткі звязала яго цётка Марыя. Падарунак выклікаў бурныя спрэчкі ў таджыкскім сегменце сацыяльных сетак. Карыстальнікі кажуць, што арнамент шкарпэтак, якія падараваў Кіркораў, даволі рэдкі, і яго могуць зрабіць выключна жанчыны Горнага Бадахшана — рэгіёна Таджыкістану. Каб падобных гісторый не паўтаралася, некаторыя таджыкі прапануюць звярнуцца да кіраўніцтва ЮНЕСКА з просьбай уключыць таджыкскія шкарпэткі ў спіс помнікаў сусветнай культурнай спадчыны. Праўда, на гэтым мясцовыя патрыёты не спыніліся. Разам са шкарпэткамі ў спіс ЮНЕСКА прапануецца ўнесці таксама плоў, які, быццам, прыдумалі таджыкі.

**Паводле таджыкскай прэсы**

### ЗША. Ці ўплываў Хрушчоў на амерыканскія выбары?

Каментуючы выказванні пра магчымае ўмяшанне Масквы ў ход амерыканскіх прэзідэнцкіх выбараў, гісторыкі ўзгадалі незвычайны маналог Мікіты Хрушчова. У 1961 годзе падчас сустрэчы з Джонам Кенэдзі ў Вене Мікіта Сяргеевіч сказаў: «Містэр Кенэдзі, вы ж ведаеце, што мы галасавалі за вас». Сёння тая цытата выклікала вялікі інтарэс. Сапраўды, Савецкі Саюз не быў зацікаўлены ў перамозе рэспубліканца Рычарда Ніксана — працаўніка Кенэдзі. Акрамя таго, што Ніксан лічыўся «ястрабам», ён паспеў асабіста пасварыцца з Хрушчовым у 1959-м (за год да выбараў) падчас адкрыцця амерыканскай выставы ў Маскве. Па слядах той эмацыйнай спрэчкі генсек КПСС кулуарна сказаў, што перамога Ніксана — не пажаданы для СССР сцэнар. На думку гісторыкаў, Хрушчоў сапраўды мог уплываць на ход кампаніі за акіянам, калі асабіста адмовіўся выдаць амерыканцам лётчыка Гары Паўэлса, чый самалёт быў збіты над Уралам увесну 1960-га. «Яшчэ не час», — сказаў тады Хрушчоў. Няздольнасць рэспубліканскай адміністрацыі вызваліць Паўэлса, як лічаць спецыялісты, магла падарваць аўтарытэт іх кандыдата Рычарда Ніксана і спрыяць таму, што частка выбаршчыкаў прагаласавала за дэмакрата Кенэдзі. Вядома, што разрыў паміж Кенэдзі і Ніксанам на выбарах 1960-га склаў толькі 200 тысяч галасоў.

**Паводле амерыканскай прэсы**



Фота www.hochu.ua

# Вакарчука ў прэзідэнты!

Алег НОВІКАЎ

**Бой навагодніх курантаў ва Украіне анансаваў старт прэзідэнцкай кампаніі 2019 года. Сярод фаварытаў — Святаслаў Вакарчук, лідар папулярнага рок-гурта «Океан Эльзи».**

Новы год стаў экватарам прэзідэнцкай кадэнцыі Пятра Парашэнкі. Да гэтай даты цяперашні прэзідэнт падышоў з вельмі супярэчлівымі вынікамі, пра што выразна сведчаць свежыя сацыялагічныя апытанні. Так, Кіеўскі міжнародны інстытут сацыялогіі ў справаздачы за 19 снежня мінулага года сцвярджае, што Парашэнку сімпатызуюць усяго 4,6 працэнта ўкраінцаў.

Прычын такога стаўлення ў электарату да Парашэнкі сапраўды хапае. Гэта і нязздольнасць перамагчы карупцыйныя схемы, адным з аўтараў якіх, наадварот, як сведчыць «панамскі скандал», апынуўся сам гарант. І нявыкананае абяцанне дамагчыся для ўкраінцаў бязвізавага ўезду ў Еўропу. Нічога не зразумела з перспектывай рэінтэграцыі Данбасу. Не кажучы пра тое, што Парашэнка дагэтуль мае бізнес у Расіі, то бок плаціць падаткі ў бюджэт краіны, якую сам штодня называе агрэсарам.

Нягледзячы на мінорную сацыялогію, на Банкаўскай (кіеўскай вуліцы, дзе знаходзіцца рэзідэнцыя ўкраінскага прэзідэнта) не губляюць надзеі на другі тэрмін шэфа. Стаўка, калі верыць прэсе, робіцца на штучнае мадэляванне формулы другога туру выбараў. Перад уладнымі паліттэхнолагамі ставіцца задача — правесці ў фінальны пул Парашэнку і нейкага адыёзнага палітыка. Ёсць думка, што ў спарынг-партнёры Парашэнку будуць штурхаць папуліста Алега Ляшко, які мае рэнамэ аматара нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі, або экс-рэгіянала Юрыя Бойку, які па самыя вушы ў кампрамаце, звязаным з эканамічнымі злачынствамі.

Але не толькі на Банкаўскай ідзе мазгавы штурм наконт схемы выбараў 2019-га. Заходнія куратары Кіева, гледзячы па ўсім, разумеюць рэфарматарскую імпатэнцыю Пятра Аляксеевіча і шукаюць яму замену. Сярод кандыдатур называюцца экс-кіраўнік СБУ Валянцін Налівайчанка, баксёр і мэр Кіева Віталь Клічко і, нарэшце, спявак Святаслаў Вакарчук, імя якога ўсё часцей згадваецца ў прэсе ў сувязі з палітыкай.

Пра палітычныя амбіцыі Вакарчука, які доўгі час трымаўся ўбаку ад палітыкі, пачалі казаць яшчэ ў мінулым годзе. Тады музыка нечакана апынуўся ў амерыканскім Ельскім універсітэце. У межах курсаў, якія праходзіў Вакарчук, вывучаюцца прадметы, неабходныя палітычнаму лідару. Нездарма па вяртанні са Злучаных Штатаў спявак адразу атакаваў у адкрытым лісце Парашэнку за тое, што яго ўлада не апраўдвае чаканні народа.

Хаця пра свае намеры перабрацца ў офіс на Банкаўскай Вакарчук кажа неахвотна, і часцей нават з доляй скепсісу і самаіроніі, з палітычнага поля ён упарта не сыходзіць. У якасці прыкладу — ініцыяваны ім у снежні ліст дзеячаў культуры да Парашэнкі з заклікам стварыць паўнавартасную сістэму незалежных антыкарупцыйных судоў. Так ці інакш, Вакарчук ужо фігуруе ў сацыялагічных даследаваннях па пытанні кшталту: «За каго вы будзе галасаваць, калі выбары прэзідэнта адбудуцца заўтра?». І, гледзячы па ўсім, яго сапраўды баяцца. Журналісты адзначылі, што спікеры адміністрацыі Парашэнкі сістэматычна паліваюць брудам усіх крытыкаў Парашэнкі — акрамя Вакарчука.

Чаму прэзідэнцкае атачэнне не чапае Вакарчука і чаму палітычныя тэхнолагі зацікавіліся салістам «Океана Эльзи» — зразумела. Безумоўна, Вакарчук — адзін з жывых сімвалаў незалежнай Украіны, разам з футбалістам Андрэем Шаўчэнкам і братамі Клічко. Пазнавальнасць у яго дакладна не меншая, чым у Парашэнкі і іншых палітычных лідараў. Апроч таго, у яго, як сведчыць яго біяграфія, маюцца нейкія прынцыпы. Пасля аранжавай рэвалюцыі 2004-га Вакарчук стаў дэпутатам парламенту, каб праз прыкладна год скласці мандат. Нарэшце, хто яшчэ з цяперашніх грамадзян Украіны сталага ўзросту без цяжкасці здольны мабілізаваць аўдыторыю ў 70 тысяч чалавек на стадыёне ў Кіеве і прыкладна некалькі дзясяткаў тысяч у іншых буйных гарадах краіны?

Шанцы спевака на прэзідэнцтва выглядаюць някепска, аднак ёсць і мінусы. Яго бацька, рэктар Львоўскага ўніверсітэта Вакарчук-старэйшы, быў міністрам адукацыі пры Ючанку і нічым добрым не запомніўся. Незразумела таксама, як выхадзец з Львову будзе ўспрымацца на чале Украіны на Паўднёвым Усходзе.

Аднак, падаецца, найбольш слабае месца музыкі — яго ідэалагічная ангажаванасць. Відавочна, што ў сваіх выбарчых прапановах Вакарчук будзе пастуляваць адданасць ідэалам Майдана. Аднак з тымі ж лозунгамі на выбары пойдзе прорва іншых палітыкаў, у тым ліку нехта ад партыі Міхаіла Саакашвілі (сам Саакашвілі па ўкраінскіх законах балатавацца права не мае) або Юлія Цімашэнка.

Акрамя таго, Вакарчуку могуць скласці канкурэнцыю яго палітычныя аднагодкі — Надзея Саўчанка (кажуць, што ёй зацікавілася Германія) і папулярны акцёр Уладзімір Зяленскі. Яны таксама пазіцыянуюць сябе як прыхільнікі рэформаў і альтэрнатыва старому палітычнаму істэблішменту.

Відавочна, што, з улікам згаданых абставін, пакуль паход Вакарчука на выбары — пад пытаннем. Ці будзе музыка балатавацца, перш за ўсё залежыць ад вынікаў датэрміновых парламенцкіх выбараў, якія, на думку шмат каго, непазбежныя ў гэтым годзе і якія створаць ва Украіне абсалютна новы палітычны ландшафт.

# Футбольная рэвалюцыя

Алег НОВІКАЎ

**Рашэнне FIFA павялічыць колькасць удзельнікаў Чэмпіянату свету да 48 камандаў, як лічаць крытыкі, пагражае расколам футбольнага свету і крызісам папулярнай гульні.**



Фота www.ria.ru

Адным з абавязковых атрыбутаў Чэмпіянатаў свету з’яўляецца спецыяльны выпуск альбому ад італьянскай фірмы Panini. Гэта сшыткак са спісам гульцоў усіх зборных — удзельнікаў турніру. Прыхільнікам футболу прапануецца набываць налепкі з партрэтамі спартоўцаў і клеіць іх у сшытак. Каментуючы рашэнне Федэрацыі пра новую мадэль Кубку свету, прэса смяецца, што цяпер фанатам не абысціся не тое што сшыткам, а нават альбомам. Поўная калекцыя Panini да Кубку свету 2026-га пацягне на некалькі салідных фаліянтаў.

Усё таму, што, пачынаючы з 2026-га, Кубак свету будзе праходзіць па схеме, калі 48 каманд размяркуюць у 16 груп па тры каманды ў кожнай. Дзве лепшыя ў кожнай групе выйдуць у 1/16 фіналу.

Неабходнасць пераменаў апарат Федэрацыі тлумачыць патрэбай прасоўваць моду на футбол у бедных краінах. Рэформа сапраўды пойдзе на карысць футбольнай перыферыі. Еўропа пры пашырэнні колькасці ўдзельнікаў Чэмпіянату свету атрымае квоту ў 16 месцаў (зараз 13), Афрыка — 9,5 (5), Азія — 8,5 (4,5), Паўднёвая Амерыка — 6,5 (4,5), Паўночная і Цэнтральная Амерыка — 6,5 (3,5), Акіянія (OFC) — 1 (0,5).

Аднак крытыкаў новай схемы такая добрая матывацыя не задавальняе. Прэса вядучых футбольных дзяржаў свету абураная. Калі верыць спартовым аглядальнікам, новы фармат Кубка свету дакладна пахавае міжнародны турнір на планеце. Нават левая прэса, якая традыцыйна вітае большую квоту краін Трэцяга свету ў вядучых спартовых мерапрыемствах, дазваляе сабе крытыкаваць рашэнне FIFA. Так, на думку нямецкай «Tageszeitung», чыноўнікамі Федэрацыі рухае банальны матыў: нарубіць капусты за кошт продажу квіткоў і правоў на трансляцыю спаборніцтваў. Чытачы выдання нават заклікаюць заўзятараў да байкоту чэмпіянату.

Што ўжо казаць пра іншыя медыя, дзе рэформа 10 студзеня ўспрымаецца як міна пад футбольны свет. Перш за ўсё, ніхто не разумее, як можна было рэфармаваць турнір, калі футбольная грамадскасць збольшага негатыўна ацаніла нядаўняе пашырэнне колькасці ўдзельнікаў фіналу Чэмпіянату Еўропы. Як вядома, на апошнім турніры ў Францыі ўпершыню гуляла не 16, а 24 каманды, аднак плюсаў у гэтым не пабачылі. Наадварот, вынікі вялікай колькасці матчаў праз палярны ўзровень гульцоў былі прадказальныя. Як кажа трэнер нямецкай зборнай Ёахім Лёў, чэмпіянат у Францыі праз раздутую колькасць удзельнікаў для развіцця футболу не даў нічога.

Сапраўды, новыя правілы дазволяць камандам такіх экзатычных футбольных краін, як Уганда або Узбекістан, усур’ёз разлічваць на паездку на Мундыяль праз дзевяць гадоў. Аднак тактыка іх гульні на турніры зразумелая ўжо зараз. Каманды будуць намагацца сядзець у глыбокай абароне, каб прапусціць мінімум галоў ад больш моцных зборных. На думку спецыялістаў, павальная стаўка на абарону можа змяніць стыль футбольнай гульні. «Я больш за ўсё занепакоены тым, што гэта (рэформа) зменіць футбол, пазбавіць яго прывабнасці. Мы ўсе любім адкрытую гульню. Рашэнне FIFA можа прымусіць каманды перайсці на прынцып абароны», — кажа прэзідэнт Нямецкага футбольнага саюза Рэйнард Грындэль.

Салідарныя з Грындэлем і ўладальнікі футбольных клубаў

**Рэформа 10 студзеня ўспрымаецца як міна пад футбольны свет. Футбольная грамадскасць негатыўна ацаніла нават пашырэнне колькасці ўдзельнікаў фіналу Чэмпіянату Еўропы ў Францыі**

Еўропы (ЕСА). Асацыяцыя еўрапейскіх клубаў ужо выказала пратэст супраць узбуйнення Кубка свету. У заяве, акрамя ўсяго, мякка намякаюць, што рашэнне было прадыктавана камерцыйнымі інтарэсамі кіраўнікоў FIFA. Некаторыя медыя не выключаюць, што кіраўнік Федэрацыі Джані Інфанціна мог атрымаць хабар за лабіяванне пастановы. Грошы вакол турніру 2026-га ўжо зараз круцяцца фантастычныя. Падлічана, што, дзякуючы новай формуле, Федэрацыя атрымае каля 4,1 мільярда еўра супраць трох, якія плануецца атрымаць за турнір 2018 года.

Якія яшчэ аргументы высоўваюцца супраць новай схемы? Некаторыя пралічылі, што напярэдадні фінальных спаборніцтваў штодня будуць гуляць каля шасці сустрэчаў. Такая празмерная насычанасць можа выклікаць эфект абыякавасці нават у футбольных фанатаў. Нагадваюць і пра тое, што менавіта ў групах, дзе гуляюць тры каманды, часцей за ўсё ў гісторыі ўзнікалі скандалы з подкупам футбалістаў.

Незразумела, колькі краінаў у свеце могуць пацягнуць правядзенне турніру ў 16 групах. З тых дзяржаў, якія сёння выставілі кандыдатуры на права прымаць турнір, — Канада, Новая Зеландыя, Кітай і Індыя па сумеснай заяўцы, таксама сумесна Эквадор, Балівія, Перу і Парагвай, напэўна, толькі Кітай здольны адпавядаць крытэру — мець 16 стадыёнаў алімпійскага ўзроўню ў 16 гарадах.

Праўда, ёсць у рэформы і прыхільнікі — у тым ліку са свету футболу. На іх думку, футбол ад пераменаў асабліва не страціць, паколькі за апошнія 20–30 гадоў ніякіх прынцыповых навацый у гульні не было. А славуты Дыега Марадона кажа, што новы фармат дазволіць футбалістам з бедных краін пабачыць узровень футболу, пра які яны толькі марылі. Гэта дасць штуршок для буму футбольнай інфраструктуры па ўсім свеце. Выданні Трэцяга свету таксама актыўна вітаюць гігантаманію FIFA.

Ёсць і трэцяя пазіцыя. Яе адэпты прапануюць не сварыцца наконт Чэмпіянату свету–2026, пакуль не пройдзе турнір 2018-га ў Расіі. Міжнародная палітычная напружанасць і нядаўнія допінг-скандалы вакол расійскіх алімпійцаў дазваляюць прагназаваць перанос турніру ў іншую краіну — або нават яго скасаванне. Натуральна, без скандалаў і дэмаршаў не абыдзецца, што адаб’ецца на ўсёй футбольнай сістэме. Можна сустрэць экстравагантную думку пра тое, што пасля 2018-га Чэмпіянаты свету ўвогуле знікнуць. Замест Мундыяляў створаць Сусветную лігу для нацыянальных зборных, удзельнікі якой штогод і будуць разыгрываць тытул чэмпіёна планеты.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Міхаіл Саакашвілі



Грузінскаму і ўкраінскаму палітыку будзе больш цяжка ўплываць на палітпрацэс у Грузіі з-за канчатковага развалу «Адзінага нацыянальнага руху». Лідары «нацыяналаў» (так называюць партыю ў народзе) не знайшлі агульнай мовы наконт тактыкі.

Усё пачалося пасля першага туру грузінскіх парламенцкіх выбараў у верасні мінулага года, калі «Адзіны нацыянальны рух» (АНР) пацярпеў паразу. Тады Саакашвілі запатрабаваў ад аднапартыйцаў адмовіцца ад месцаў у парламенце, пачаць вулічныя акцыі пратэсту і паспрабаваць яшчэ раз перахапіць уладу рэвалюцыйным шляхам. Аднак большасць з кіраўнікоў АНР аддалі перавагу палітычнай барацьбе ў вышэйшым заканадаўчым органе. Разборкі працягнуліся пасля выбараў, і ў выніку 9 студзеня выканаўчы сакратар абвясціў пра роспуск партыі. Паводле яго слоў, сітуацыю, калі частка чальцоў арганізацыі кіруецца рашэннямі адной групы лідараў, а другая — рашэннямі іншай, нельга лічыць нармальнай.

Крызіс «нацыяналаў» выглядае яшчэ больш ненармальным праз тое, што, страціўшы ўладу ў 2012-м, партыя трапіла пад моцны палітычны ціск з боку новага рэжыму. Нягледзячы на арышт групы кіраўнікоў, «Адзіны нацыянальны рух» тады ўтрымаўся ў палітычным полі як вядучая партыя апазіцыі. Аднак праз чатыры гады разваліўся — праз спрэчкі функцыянераў.

Лічыцца, што ў бліжэйшы час прыхільнікі Саакашвілі абвясцяць пра стварэнне новай партыі «Еўрапейская Грузія», аднак ці будзе яна мець тую ж палітычную вагу, як АНР, — адкрытае пытанне.

### Антоніў Гутэрыш



Новы генеральны сакратар ААН можа пачаць сваю кадэнцыю з вялікага дыпламатычнага поспеху. Дэлегацыя ААН, якая курыруе перамовы па праблеме абяднання Кіпра, заявіла, што вельмі блізкая да таго, каб прымірыць бакі.

Нагадаем, што Кіпр з 1974 года падзелены на дзве дзяржавы: грэчаскую Рэспубліку Кіпр і непрызнаную турэцкую рэспубліку Паўночнага Кіпру. Калі верыць прэсе, у будучым Кіпр можа выглядаць як федэральная дзяржава.

Праўда, на шляху да канчатковага прымірэння патрэбна вырашыць пакет складаных пытанняў. Перш за ўсё — праблему маёмасці, якая належала грэкам-кіпрыётам да турэцкай інтэрвенцыі ў 1974 годзе. Дасюль няма вызначанасці, аддаваць яе старым гаспадарам або выплачваць ім грашовую кампенсацыю. Другая, не менш важная праблема — хто будзе адказным за бяспеку на поўначы Кіпра, дзе знаходзіцца каля 30 тысяч турэцкіх вайскоўцаў. Бакам таксама неабходна ўзгадніць механізм змены прэзідэнтаў Кіпра. Яшчэ адзін праблемны пункт: хто стане гарантам рэалізацыі дасягнутых пагадненняў на ўзроўні міжнародных пасярэднікаў.

Як бачым, праблем хапае, аднак супрацоўнікі Гутэрыша настроеныя вельмі аптымістычна. Застаецца дадаць, што абяднанне было б немагчыма без згоды Турцыі, якой утрыманне сепаратыстаў аказалася не па кішэні.

### Эмануэль Макрон



Былы міністр эканомікі ў кабінеце сацыялістаў, незалежны кандыдат леваліберальных поглядаў у прэзідэнты Францыі, які афіцыйна абапіраецца выключна на сваю невялікую арганізацыю «En Marche», нечакана для ўсіх выйшаў на другое месца ў рэйтынгу папулярнасці кандыдатаў на пасаду прэзідэнта.

Паводле выдання «Les Echos», калі б выбары адбыліся сёння, Макрон атрымаў бы 24 працэнты галасоў выбаршчыкаў і абагнаў бы Марын Ле Пэн (22 працэнты), якую яшчэ ўчора ўсе аднагалосна бачылі ў фінале. Найбольш папулярным палітыкам у Францыі дасюль застаецца правацэнтрыст Франсуа Фіён, якому сімпатызуюць 26 працэнтаў выбаршчыкаў.

Феномен уздыму Макрона тлумачаць крызісам унутры буйных левых партый, якія не маюць цікавых і аўтарытэтных лідараў. Такім чынам, левы электарат (прыкладна 30 працэнтаў выбаршчыкаў) будзе схіляцца да падтрымкі лідара «En Marche». Акрамя таго, кампанія Макрона вельмі дынамічная, ён увесь час прысутнічае ў выпусках навін і сам ствարае медыянагоды, што падабаецца моладзі і сярэдняму класу.

Ці мае Макрон шанцы перамагчы Фіёна? Але для гэтага Макрону трэба выйграць бітву ў Марын Ле Пен за выхад у фінал. Што тычыцца самой Марын, дык яна не верыць, што 39-гадовы Макрон можа стварыць ёй праблемы на шляху да перамогі.

# Лёс доктара Мікалая Марцінчыка

Сяргей ЧЫГРЫН

**Артыкул пра Мікалая Марцінчыка прапанаваў напісаць мне даследчык Заходняй Беларусі, доктар філалагічных навук Арсень Ліс. «Гэты чалавек сёння амаль забыты, а ён быў вельмі актыўным грамадска-палітычным дзеячам у Заходняй Беларусі. Стаяў ля вытокаў БСРГ, быў адным з кіраўнікоў Беларускага студэнцкага саюза, намеснікам старшыні Галоўнай управы ТБШ», — казаў Арсень Сяргеевіч.**



**Мікалай Марцінчык**

Ён мае рацыю. Мікалай Марцінчык — найцікавейшая асоба беларускай гісторыі XX стагоддзя. Марцінчык сябраваў і ліставаўся са многімі дзеячамі Беларусі. Пра яго вельмі шчыра адгукалася грамадская дзяячка і пісьменніца Зоська Верас. У сваіх лістах да сяброў яна прыгадвала: «Мне Мікалай Міхайлавіч Марцінчык прысылае парады і лекі. А цяпер, магчыма, той беларус з Варшавы прывязе мне лекі польскія, якія парадзіў і прысылаў на пробу Мікалай Міхайлавіч» (з ліста Фёдара Ігнатовіча). «Не ведаю, ці Вы знаёмыя з др. М.М.Марцінчыкам? Гэта мой знаёмы яшчэ з 1924 г. Мы ўвесь час ліставаліся...» (з ліста да Дануты Бічэль).

А вось як казала пра яго беларуская паэтка-змагарка Ларыса Геніюш: «Шкада доктара Марцінчыка. Пісала мне пра гэта Людвіка Антонаўна (маецца на ўвазе Зоська Верас. — С.Ч.). Вельмі шкадую памерлага. Ён не раз быў у нас і памагаў нам даставаць лекі. Няхай лёгкаю будзе яму наша зямля» (з ліста да Аляксея Пяткевіча).

Мікалай Марцінчык быў асабістым доктарам нашага славутага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. Яны пазнаёміліся яшчэ ў 1920-х гадах у Вільні. З таго часу шчыра сябравалі. Калі спявак жыў у Празе, то кансультаваўся ў Марцінчыка наконт лекаў, прасіў парады, як і чым лепш лячыцца. У 1976 годзе Мікалай Марцінчык атрымаў ад Забэйды-Суміцкага кружэлку сваіх песень, што выйшла ў Празе ў 1968 годзе з аўтографам: «Дарагому доктару М.М.Марцінчыку — удзячны пацыент М.Забэйда».

Сапраўды, Мікалай Марцінчык быў даволі добрым доктарам. Ён скончыў медычны факультэт Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя. Часопіс «Студэнцкая думка» за 1928 год № 1 (8) паведамляў: «30.XI м.г. скончыў Віленскі ўніверсітэт з тытулам доктара мед. унів. гр. М.Марцінчык — сябра Б.С.С.». Але не толькі медыцынай займаўся юнак з вёскі Кубельнікі Гродзенскага павета (цяпер Бераставіцкі раён), а таксама палітыкай, грамадска-культурнай працай і журналістыкай.

Пачатковую адукацыю ён атрымаў у Масалянскай царкоўна-прыходскай школе, бо бацькі — Міхась Рыгоравіч і Фёкла Васільеўна — хацелі, каб сын вучыўся. Пасля школы хлопец паступіў у Гродзенскую беларускую гімназію, потым яго шлях ляжаў у Вільню.

У Вільні Марцінчык хутка ўліўся ў працэс беларускага нацыянальна-вызвольнага адраджэння. Ва ўніверсітэце ён стаў адным з кіраўнікоў Беларускага студэнцкага саюза (БСС). Часопіс «Студэнцкая думка» (1924, № 1) у сваёй хроніцы паведамляў: «30 лістапада адбыўся гадавы сход Беларускага студэнцкага саюзу. Выбраны новы ўрад Саюзу ў асобах сяброў — Марцінчыка Міколы — старшыня...» Ён не толькі кіраваў БСС, але сам актыўна выступаў з лекцыямі, публікаваў артыкулы ў «Студэнцкай думцы» пад сваім прозвішчам і пад рознымі псеўданімамі і крыптанімамі — у іншых заходнебеларускіх выданнях.

У 1925 годзе Мікалай Марцінчык быў абраны сакратаром, а ў 1926 годзе — сябрам Галоўнай управы Таварыства беларускай школы (ТБШ). Ён актыўна займаўся стварэннем акруговых суполак ТБШ, публікаваў у друку артыкулы, у якіх патрабаваў адкрыцця беларускіх школ, дапамагаў лакальным арганізацыям ТБШ, у межах дзейнасці ТБМ і ТБШ супрацоўнічаў з актывістамі КПЗБ, але не падзяляў левых поглядаў камуністаў. А ў 1925 годзе ўдзельнічаў ва ўстаноўчай канферэнцыі па стварэнні Беларускай сялянска-работніцкай Грамады пад кіраўніцтвам Браніслава Тарашкевіча, уваходзіў у рэдакцыйную калегію газеты «Беларуская ніва». На яе старонках 18 лістапада 1925 года паведамлялася: «У нядзелю 16 лістапада адбыўся агульны сход сяброў Таварыства беларускай школы. Пасля справаздачы Цэнтральнай Рады аб дзеяцельнасці за мінулы год і нагляднай аб рэвізіі адбыліся выбары сяброў Новай Цэнтральнай школьнай рады і Нагляднай на наступны год. У Цэнтральную школьную раду выбраны: старшыня — Б.Тарашкевіч, віцэ-старшыні: С.Рак-Міхайлоўскі, М.Заморын, сакратары: Я.Шнаркевіч і М.Марцінчык...».

У 1927 годзе, пасля заканчэння Віленскага ўніверсітэта, Марцінчык пачаў працаваць у Віленскай педыятрычнай бальніцы. А потым — выкладчыкам анатоміі і хіміі ў Віленскай беларускай гімназіі. Адначасова ён каардынаваў выбарчую кампанію ў польскі Сейм, але трапіў у турму. Праўда, польскія ўлады (каб не надакучаў у Вільні) хутка выслалі Марцінчыка на Беласточчыну, у вёску Янаўка, пад нагляд паліцыі. Там ён уладкаваўся на працу доктарам, лячыў вяскоўцаў, але займацца грамадскай дзейнасцю не пакінуў.

З Янаўкі доктар Марцінчык пераехаў у Нараўку Гайнаўскага павета і актыўна працаваў у ТБМ. У Нараўцы ўжо ведалі, хто такі доктар Марцінчык, і яго прыезд вяскоўцы сустрэлі з радасцю. За ўласныя сродкі і ахвяраванні вяскоўцаў ён хутка купіў рэнтгенапарат, які быў вельмі неабходны. А калі прыйшла на Беласточчыну савецкая ўлада, доктару давялося займацца адкрыццём беларускіх школ, выступаць з лекцыямі і гутаркамі на медыцынскую тэматыку перад насельніцтвам, прымаць удзел у якасці кіраўніка бальніцы і дэпутата сельскага Савета ў правядзенні сесій, выступаць на мітынгах, — так патрабавала савецкая ўлада.

У першыя дні вайны ў Нараўскай бальніцы было шмат параненых чырвонаармейцаў. Іх даглядаў беларускі доктар. Працы хапала, спаў па пару гадзін на суткі. Але хутка ў Нараўку прыйшлі немцы. Яны абшукалі ўсіх параненых і вельмі цікавіліся, ці ёсць сярод іх афіцэры і камісары. Доктар Марцінчык казаў, што няма, бо тыя, хто адступаў, забралі іх з сабой. Немцы пакінулі Нараўку, але не надоўга.

Жыць і працаваць падчас акупацыі было няпроста: немцы сачылі за доктарам Марцінчыкам, мяркуючы (небеспадстаўна), што ён супрацоўнічае з партызанамі. Яны часта прыходзілі да доктара, шмат распытвалі, арыштоўвалі. Дапытвалі спадара Марцінчыка і ў гестапа. Потым забаранілі жыць і працаваць у Нараўцы, загадалі пераехаць у Белавежу, дзе быў вялікі нямецкі гарнізон і гестапа. Але доктар Марцінчык і там дапамагаў сваім людзям, перадаваў для партызан медыкаменты, многіх падпольна лячыў. Асабліва добрыя стасункі былі з камандзірам партызанскага атрада імя Кастуся Каліноўскага Аляксеем Карпюком, які быў родам з Беласточчыны. У 1944 годзе, пасля блакады і баёў, партызанскаму атраду імя Каліноўскага патрэбны былі лекі і бінты. І доктар дапамагаў, рызыкуючы жыццём.

Пасля вайны сям'я Марцінчыкаў пераехала ў Гродна. Доктара хацелі ўзнагародзіць медалём «Партызану Айчыннай вайны». Але не ўзнагародзілі, бо нехта з чыноўнікаў выкрасліў яго імя са спісу: маўляў, у яго біяграфіі шмат «белых плямаў». Не дапамаглі нават сведчанні тых, каго ён лячыў ад ран.

А ў 1948 годзе Марцінчыка арыштавалі органы МДБ. Яго дапытваў сам Цанава. Пасля допытаў асудзілі на 10 гадоў і адправілі ў Варкуту. Дадому ў Гродна доктар вярнуўся толькі пасля смерці Сталіна, а ў 1956 годзе яго рэабілітавалі.

У Гродне доктар Марцінчык працаваў у абласной бальніцы, да самай смерці шчыра сябраваў з тым жа Аляксеем Карпюком і Васілём Быкавым. Яго не стала ў маі 1980 года. На надмагільным помніку, які знаходзіцца ў вёсцы Алекшыцы на Бераставіччыне, напісаны радкі з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля»: «Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы...».



**Мікалай Марцінчык (у цэнтры) сярод студэнтаў Віленскай беларускай гімназіі, 1930-я гады**



# Вайна за душы літвінаў

Віктар ЦІТОЎ,
доктар гістарычных навук

**Як і што думалі пра «Забраны край», як уяўлялі сабе тутэйшы люд — беларусаў-літвінаў расійскія аўтары ў ХІХ — пачатку ХХ стагоддзя? Узнікае ўражанне, што ад моманту захопу беларускіх зямель Расійскай імперыяй пасля падзелаў Рэчы Паспалітай з літвінаў намагаліся зрабіць людзей другога гатунку.**

## Рэлігія і мова

Асноўным крытэрам этнічнай ідэнтыфікацыі мясцовага насельніцтва пасля далучэння беларускіх зямель да Расіі была рэлігія: усе каталікі і грэка-каталікі (уніяты) лічыліся палякамі, а праваслаўныя — рускімі. У той час гэта быў свайго роду кампраміс паміж заходняй і ўсходняй (расійскай) цывілізацыйнымі плынямі — хаця ён і не адпавядаў еўрапейскім стандартам, навуковым крытэрам нацыянальнай ідэнтыфікацыі.

Да грэка-каталікоў (уніятаў) адразу пасля падзелаў яшчэ не было адкрытай і трывала вызначанай афіцыйнай пазіцыі. Лагічна было называць іх, па старой памяці, літвінамі. Але ж гэта супярэчыла імперскай ідэалогіі заходнерусізму, якая не прызнавала беларусаў-літвінаў за самастойны народ.

Пасля скасавання ўніяцкай царквы і пераводу масы сялянства, а часткова і дробнай шляхты ў «рускую веру», большасць насельніцтва Беларусі была гвалтоўна аднесена да рускай народнасці.

Пасля паўстання 1863 года разам з узмацненнем русіфікацыі і змены этнасацыяльнай палітыкі ў бок саступак сялянству асноўным крытэрам этнічнай ідэнтыфікацыі станавілася не рэлігія, а мова.

Менавіта ў гэты час польская мова, паводле царскага ўказа, была забаронена ў афіцыйным ужытку і сістэме адукацыі, адзінай дзяржаўнай мовай прызнавалася руская. Такім чынам русіфікацыя распаўсюджвалася на сялян-каталікоў і дробную шляхту — усіх, хто размаўляў на мясцовым беларускім «наречии».

## Мова як ідэалогія

Выхадзец з мясцовага ўніяцкага асяроддзя Павел Баброўскі звяртаў асобую ўвагу на мясцовы фальклор і родную мову, якую лічыў асноўным паказчыкам, «які адрознівае адзін народ ад другога, бо мова — нібы родавы герб, што перадаецца народу ў спадчыну ад яго продкаў, яна з'яўляецца люстэркам, у якім выразна адбіваецца яго характар, мараль і нават цэлая гісторыя краю; мова жыве з народам, разам з ім развіваецца і памірае».

Аднак ідэалагічны падтэкст разважанняў аўтара не дазволіў яму быць паслядоўным. Ігнаруючы іншыя характэрныя адзнакі этнічнай прыналежнасці, у прыватнасці, нацыянальную самасвядомасць, радавод і сямейнае паходжанне, аўтар залічыў да рускага народа ўсіх тутэйшых сялян (у тым ліку і каталікоў), якія размаўлялі па-беларуску, а каталіцкую шляхту і невялікую частку мяшчан, што размаўлялі па-польску, аднёс да палякаў.

Гэта якраз і было ўвасабленнем ідэалагічнай канцэпцыі заходнерусізму на практыцы. Такога кшталту метадалагічныя (дакладней, ідэалагічныя) падыходы шырока ўжываліся ў гістарычных і этнаграфічных працах другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя. З-за гэтага нярэдка ствaралася сітуацыя абсурду: сваякі, чальцы адной сям'і (родныя браты, адзін — каталік, другі — праваслаўны) афіцыйна станавіліся прадстаўнікамі розных нацый!

У шматлікіх публікацыях, якія знаёмілі расійскую грамадскасць з Беларуссю, стала фігуруе зыходны пастулат аб адзінай зямлі Рускай, што складаецца з трох частак: Вялікай Русі (або Вялікаросіі), Малай Русі (Маларосіі) і Белай Русі (Беларусіі).

У папулярнай кнізе «Сяродбалот і лясоў», выдадзенай у пачатку XX стагоддзя (аўтар М. Гуленка) чытаем: «Рускі народ падзяляюць на тры сям'і — вялікарусаў, маларосаў і беларусаў... Размаўляюць яны ўсе па-руску, але на трох розных дыялектах (літаральна — «наречиях»)». І далей: «Больш за сто гадоў таму ўся Беларусь зноў была вернутая Расіі».

## «По наружности...»

Зыходзячы з ідэалагічнай канцэпцыі заходнерусізму, расійскія аўтары падкрэслівалі адзінства Русі і яе славянскага народа — вялікарусаў, беларусаў, маларосаў. Аднак, калі гаворка заходзіла пра канкрэтны вобраз (тыпаж) беларуса і яго духоўны склад, дык тыя ж аўтары малявалі тып беларуса, які прыкметна адрозніваўся ад «велікаруса».

Каб захаваць дакументальнасць падачы, некаторыя тэксты расійскіх аўтараў прывядзём у арыгінале.

Р. Папоў у «Чытаннях для войск і народа» (1879) піша: «Даже по самой наружности своей белорусы во многом отличаются от великорусов и малороссов. Белорусы по большей части среднего роста, часто и того менее, приземисты, одутловаты с лица, которое всегда круглое, часто без бороды, вообще жидкобороды и имеют обыкновенно глаза серые и волосы русые. В 40, много 50 лет белорус выглядит совершенным стариком, особенно женщины, которые стареют весьма рано, хотя в молодости многие из них отличаются и свежестью и красотою».

Папоў паўтарае тое, што пісаў А.М. Семянтоўскі ў кнізе «Этнаграфічны агляд Віцебскай губерні» (1872). Такое ж вызначэнне этнаграфічнага тыпу беларуса праходзіць і праз



шэраг афіцыйных выданняў з грыфам «Разрешено цензурой». Паўтараецца яно і ў артыкуле «Беларусы» вядомага энцыклапедычнага слоўніка Бракгаўза і Ефрона: «По наружности белорус резко отличается от великоруса. Он редко бывает более среднего роста, а часто менее; скорее приземист, чем строен; одутловат; волоса русые; глаза малооткрытые, как бы вдавленные, чаще всего серые; лицо круглое. В 40, много в 50 лет белорус выглядывает совершенным стариком...»

Падобны ці блізкі да яго антрапалагічны тып беларуса з «мастацкім ухілам» і суб'ектыўнымі (асабістымі) эмацыйнымі ацэнкамі, малюе аўтар брашуры Е.Э. Сно «У балотах Палесся». «Белорус, — піша ён, — нисколько не похож на своего родного брата — великоруса. Перед нами — маленький человечек с белокурыми волосами, светлыми глазами, с бледным маловыразительным лицом, оттененным жиденькой бородкой. Этот тщедушный человек представляет полную противоположность сильной, коренастой фигуре великоросса; также и лицо его, добродушное, с робким взглядом, не похоже на лицо великоросса, выражающее большей частью степенное достоинство».

Далей аўтар са спагадай апісвае бедную хату селяніна, яго сціплы побыт і харчаванне. Аднак яго апавед пра незайздросную долю беларуса нярэдка набывае характар гратэску: «Стены (в доме) окружены лавками, сделанными очень неумело, часто кривоногими... У белорусов нет никаких способностей к ремеслам, и это отзывается на всем его хозяйстве. В этом отношении белорус также не похож на великоросса, который, как говорится, — «на все руки мастер».

Гаротны стан мясцовых сялян, беднасць, забітасць, абыякавасць да жыццёвых абставін прыхільнікі афіцыйнай школы заходнерусізму вытлумачвалі цяжкім гістарычным мінулым беларускага народа, які доўга трываў пад гнётам Літвы і панскай Польшчы.

Тут варта нагадаць, што пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння Беларусі да Расійскай імперыі прайшло больш за стагоддзе. А эканамічнае становішча мясцовага працоўнага люду, яго паўсядзённы ўклад (калі зыходзіць з гэтых натуралістычных апісанняў) нібы засталіся на першабытным узроўні.

## Пан сахі і касы

Экстрапаляцыя ідэалогіі заходнерусізму, як і іншых вялікадзяржаўных канцэпцый, на гуманітарныя навукі была жорсткім цэнзурным патрабаваннем для даследчыкаў гісторыі, мясцовай этнаграфіі, вусна-паэтычнай творчасці. Як ні дзіўна, падобная формула захоўвалася на працягу многіх дзесяцігоддзяў, у тым ліку і ў савецкую эпоху.

Але ад «афіцыйна-цэнзурнага» вобразу беларуса адрозніваюцца краязнаўчыя нататкі тых, хто жыў сярод народа і меў магчымасць непасрэдна назіраць паўсядзённы побыт жыхароў, працоўны і святочны рытм жыцця, паводзіны ў розных жыццёвых сітуацыях, духоўныя памкненні, інтарэсы, звычаі. Іван Эрэміч бачыў у экзатычных абразках Палесся, у немудрагелістым і практычна выверанам ладзе жыцця беларуса-палешука, як і ў спосабах уладкавання культурнага асяродку, манеры апранацца і інш., рацыянальны кансерватызм і мэтазгоднасць, адвечную гармонію мясцовых жыхароў і прыроды. «Стагоддзі праляцелі над імі, амаль не закрануўшы іх сваім разбуральным крылом. І ў вядзенні дамашняй гаспадаркі, і ў будаўніцтве хаты, і ў мове, і нават у правах і звычаях — усё ідзе так, як гэта было ў часы дахрысціянскія».

Аўтар з цеплынёй узнаўляе духоўны склад палешука, надзяляе яго лепшымі маральнымі якасцямі. «Паляшук, — піша ён, — істота даволі добрая, адкрытая, паслухмяная, удзячная, цнатлівая, цярплівая, працалюбівая. Паляшук вельмі рэдка наносіць крыўду, яшчэ радзей помніць яе... Ён падзеліцца з бедным апошнім кавалкам свайго чорнага хлеба... У выпадку цяжкасці жыццёвай ношы, вы не пачуеце ад палешука ні папрокаў, ні стогнаў. Цярплівасць, з якой ён нясе крыж свой, унікальная... Працавітасці палескага прасталюдзіна нельга не надзівіцца. Ён працуе не толькі з ранку да вечара, але і раніцай, і вечарам, і нават уначы».

Нават дзіўна, што праца І. Эрэміча была надрукавана ў часопісе «Вестник Западной России» (1867), які зусім не славіўся дэмакратычнымі традыцыямі.

Не менш пераканаўча і праўдзіва, хоць і з прыязным гумарам, падае замалёўкі этнаграфічнага тыпу беларусаў-літвінаў, карэнных жыхароў міжрэчча Сожа і Дзясны, Марына Косіч. Яна звяртае ўвагу на багацце і непаўторную архаіку вусна-паэтычнай творчасці, народны характар і этнічную псіхалогію, пластычнасць і вобразнасць мыслення, адаптацыю да існуючай этнасацыяльнай рэчаіснасці. «Літвін, — піша яна, — з вельмі непаваротлівы, рухі яго замаруджаны, ходзіць, «як пень праз калоду», непрадпрымальны, бестурботны, аднак пры неабходнасці працуе шмат для свайго пражытку. А як толькі міне крайняя патрэба, заўсёды лічыць за лепшае пагуляць, чым шукаць заробкаў». Аднак жа на падзёншчыне, заўважае Косіч, літвін робіць «абы як, цяп-ляп», «робе і паглядае, як вол з-пад ярма; цюкне разоў паўдзесятка, ды барджэй люльку ў зубы».

Шмат увагі яна надае звычаям і абрадам, дапасаваным да каляндарных свят, народным песням і аўтэнтычным мясцовым гаворкам. «Змусьце беларускую жанчыну, — піша яна, — расказаць што-небудзь, услухайцеся ў гэтую мову, і вы знойдзеце ў ёй своеасаблівую мяккасць і лёгкасць гукавых спалучэнняў».

Аналагічныя характарыстыкі беларусаў мы сустракаем у П. Баброўскага, М. Без-Карніловіча, М. Дамантовіча, Р. Эркерта і іншых расійскіх аўтараў. М. Дамантовіч вылучаў чарнігаўскага літвіна ў асобы этнаграфічны тып, што складае «супрацьлегласць стэпавіку», жыхару паўднёвай часткі губерні. Ён адзначае незвычайную вынослівасць мясцовага літвіна ў экстрэмальных сітуацыях, кемлівасць, хітрасць, мудрагелістасць у адказах, суровасць і «апатычную бестурботнасць».

***

Мінула паўтара стагоддзя — час немалы нават па гістарычных мерках, аднак цяпер з вуснаў расійскіх палітычных і культурных дзеячаў зноў гучаць словы пра ўкраінцаў, беларусаў і расіян як адзін народ, нібыта гістарычна з'яднаны навекі — тэзы, што не адпавядала навуковым крытэрам нацыянальнай ідэнтыфікацыі яшчэ стагоддзі таму.

# Конкурс ідэй «Разам да справы»

**Грамадская культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!» і Школа маладых менеджараў публічнага адміністравання SYMPA абвяшчаюць конкурс праектных ідэй, скіраваных на спрыянне мясцоваму і рэгіянальнаму развіццю па ўсёй Беларусі.**




Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца ўсе неабыякавыя, хто займаецца паляпшэннем культурніцкай і сацыяльнай прасторы ў сваім населеным пункце або рэгіёне і спрыяе паглыбленню супрацоўніцтва розных супольнасцяў.

Калі ў вас ёсць ідэя, якая:

- можа зрабіць лепшым жыццё ў вашай мясцовасці агулам ці для нейкай групы людзей;
- яднае актыўных жыхароў для вырашэння грамадска важных пытанняў;
- умацоўвае ідэнтычнасць, у тым ліку праз пашырэнне ведаў пра нашу гісторыю і культуру, пра родны горад або рэгіён;
- матывуе да адказнасці за лёс свайго населенага пункта;
- развівае крэатыўны падыход да ажыццяўлення задумаў;
- павялічвае патэнцыял грамадскіх актывістаў;
- дапамагае наладзіць кантакты розным групам паміж сабой і з дзяржаўнымі арганізацыямі і ўстановамі,

дасылайце заяўку на скрыню: razam@budzma.org з пазнакай «На конкурс ідэй».

Хто можа ўзяць удзел:

- любыя непалітычныя ініцыятывы і арганізацыі грамадзянскай супольнасці;
- дзяржаўныя ўстановы і камерцыйныя арганізацыі;
- фізічныя асобы, крэатыўныя каманды.

Заяўка мусіць утрымліваць:

- імёны і прозвішчы аўтараў/ініцыятараў праекта, кантакты;
- назву, мэту і сутнасць праекта (да 700 словаў);
- мэтавыя аўдыторыі (чаму і каму гэты праект неабходны);
- чаму ідэя ўнікальная і/ці актуальная;
- калі і дзе ідэя мусіць рэалізавацца;
- якія рэсурсы вы ўжо маеце і якія — шукаеце (каманда, партнёры, бюджэт).

Усе дасланыя прапановы будуць разгледжаны экспертнай камісіяй кампаніі «Будзьма беларусамі!» і Школы маладых менеджараў публічнага адміністравання SYMPA.

Для абраных ідэяў кампанія «Будзьма беларусамі!» дапаможа знайсці партнёраў, каб ідэі былі рэалізаваныя.

Таксама мы гатовыя для вас:

- даць магчымасць для прасоўвання ідэі і асвятлення яе рэалізацыі на інтэрнэт-партале www.budzma.by;
- спрыяць асвятленню праекта ў сродках масавай інфармацыі;
- прадставіць вартыя ўвагі, але не адабраныя камісіяй праекты для далейшага ўдзелу на «Кірмашы праектаў» дзеля пашырэння кола аднадумцаў;

Што важна: сябры камісіі будуць ацэньваць якасць праектнай ідэі, яе грамадскую значнасць, адпаведнасць мэтавай аўдыторыі, адпаведнасць пераліку дзейнасці і неабходных для рэалізацыі сродкаў.

Падтрыманыя ідэі мусяць быць рэалізаваныя ў любы час у перыяд з 01.02.2017 г. па 31.01.2018 г.

Прыём ідэяў: да 20 студзеня 2017 г. уключна праз скрыню razam@budzma.org з пазнакай «На конкурс ідэй».

Вынікі конкурсу будуць абвешчаныя 30 студзеня 2017 г. на сайце budzma.by.

# Музычны цуд на Каляды

Генадзь КЕСНЕР

**Сапраўднае свята падаравалі аматарам беларускай творчасці слынныя айчынныя выканаўцы на праваслаўнае Раство Хрыстова: праз 17 гадоў ветэраны рок- і фолк-музыкі ўпершыню выканалі праект «Святы вечар – 2000».**



У Доме карцін (праспект Пераможцаў, 89/3) выступілі легенды — Лявон Вольскі, Вераніка Круглова, Аляксандр Памідораў, Зміцер Вайцюшкевіч. Канцэрт прайшоў з трыумфам.

«Калядны альбом», як яго называюць яшчэ, узнік напрыканцы мінулага тысячагоддзя. Гэта быў другі супольны праект выбітных беларускіх музыкаў, якія з'явіўся пасля «Народнага альбома» (1997 год). Варта звярнуць увагу, што, адрозна ад «Народнага альбому», «Святы вечар» не выконваўся так часта. А апошнім разам, як прызнаваліся самі музыкі, яны рэпетавалі гэты альбом больш за паўтара дзесяцігоддзі таму.



Цяжка сабе ўявіць, што без рэгулярных рэпетыцый можна так файна выканаць гэты складаны праект! Але ў нашых майстроў-ветэранаў гэта атрымалася. Энергетыка ў залі проста зашкальвала. І дарослыя, і дзеці таньчылі, спявалі разам з выканаўцамі, пляскалі ў ладкі ды проста скакалі, калі на тое была патрэба ў адпаведных кампазіцыях.

«Святая ноч», «Глорыя», «Мінула дзве тысячы год», іншыя крыху падзабытыя, але такія любімыя кампазіцыі проста скалыналі душу. Асобным момантам стала выкананне песні «Званочкі», якую ў альбоме спявала памерлая летась жонка Лявона Ганна Вольская. Гэтым разам кампазіцыю выканалі сам Лявон і Вераніка Круглова. Дарэчы, музыкі не ўстрымаліся, каб не выканаць пад моцныя апладысменты і з удзелам прысутных класічную ўжо кампазіцыю з «Народнага альбома» «Простыя словы».

Было відавочна, што асалоду ад таго, што адбываецца, атрымліваюць не толькі гледачы, але і самі музыкі. Фундатар і натхняльнік «Святога вечара» прадпрымальнік, былы «талаковец» Алесь Суша са сцэны прызнаўся, што не чакаў такога святочнага і феерычнага вяртання альбома да гледачоў.

«Я вельмі ўсцешаны, і цяпер спадзяюся, што такім чынам можа адрадзіцца і трэці супольны альбом — «Я нарадзіўся тут», — сказаў Алесь. На адказ музыкі выканалі аднайменную песню з гэтага альбома, а саліравалі яе аўтар Лявон Вольскі і Зміцер Вайцюшкевіч, які на кружэлцы і выконвае гэты сапраўды шлягер беларускае музыкі. Таму можна спадзявацца, што словы Алеся Сушы спраўдзяцца, і нас чакае адраджэнне яшчэ аднаго супольнага шэдэўра нашых улюбёнцаў.

## ЗВАРОТ РАДЫ ТБМ

### ТБМ звяртаецца па дапамогу

Шаноўныя прыхільнікі роднага слова!

Просім вас у сувязі з павелічэннем са студзеня 2017-га арэнднай платы за памяшканне сядзібы ТБМ (зараз яна складае 1435,00 руб.) падтрымаць нас сваімі ахвяраваннямі.

Грашовыя сродкі можна прыносіць у сядзібу ТБМ штодня (акрамя суботы і нядзелі) з 15.00 да 19.00 альбо пералічыць на рахунак ТБМ: УНП ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» 100129705, р/р 3015741233011 у Аддзяленні № 539 па Мінску і Мінскай вобласці ААТ «Белінвестбанк», код 739.

Спісы ахвярадаўцаў рэгулярна друкуюцца ў «Нашым слове», змяшчаюцца на партале ТБМ.

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня
Всего
Кассир

# Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але атрымаць «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо проста патэлефанававаць у рэдакцыю (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём).

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл., код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Таксама можна атрымаць газету ў нашым офісе і ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр
Кошт аднаго месяца — **3 рублі 20** капеек, **квартала** — **9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 40

Падпісана да друку 13.01.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.